# УЛАДЗІМІР ЛІСІЦЫН



# БЕЛАРУСЬ–МАЯ КАЛЫСКА

Уладзімір Лісіцын

# БЕЛАРУСЬ — МАЯ КАЛЫСКА

КНІГА
ПАЭЗІІ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84Бел7
Л 63

Прадмова Р. Барадуліна

В эту книгу вошли стихи из единственного сборника Владимира Лисицина (1944—1973) «Журавлиное весло» и многие не публиковавшиеся ранее произведения. Поэт, который родился в фашистском концлагере, большую часть своей такой короткой жизни прожил далеко от родной Белоруссии, но светлый образ ее навсегда полонил чуткое сердце верного сына, обещавшего стать одним из лучших белорусских поэтов...

Л $\frac{4702120202-079}{М\ 302(03)-90}$ 133—90

ISBN 5-340-00538-0

## «НА РАДЗІМЕ — УСЁ ПАЭЗІЯ»

Беларускае паэтычнае слова праз усю гісторыю правяралі на жывучасць, на вытрымку, на моц усе абставіны, якія не спрыялі яму, а наадварот імкнуліся знішчыць, закрэсліць, аддаць у цёмныя лёхі нябыту і забыцця. Але слова нашае журботна ўсміхалася, цярпела разам з Паўлюком Багрымам у салдатчыне; здушанае пятлёй, помніла пяшчоту ў развітальных радках Кастуся Каліноўскага; у астрозе ў сумным расчуленні прамаўляла: «Мой родны кут, як ты мне мілы...», каб хоць крыху скрасіць закрачаны побыт Якуба Коласа; ля сіняй бухты самотна радавалася, што Максім Багдановіч, хоць перад сконам, убачыў сваю першую кніжку «Вянок». Вянок на Купальскую вечніну ракі славяншчыны. Вянок на магілу, далёкую ад роднага васількова краю.

На сыходзе самай жудаснай вайны ў 1944 годзе ў канцлагеры Флігегорт нараджалася беларускае паэтычнае слова ў нявольніку, перадаючыся па генетычным кодзе песеннай памяці. Гэта да жудасці сімвалічна, што будучы паэт нараджаецца ў канцлагеры, каб пасля праклясці вайну, каб пасля радавацца нядоўгаму жыццёваму свайму бытаванню, але застацца жыць у беларускім слове.

Паэзія Уладзіміра Лісіцына падкрэслівае нязводнасць беларускай мовы, яе неабходнасць душы ўражлівай і зварушлівай, душы неачарсцвелай і павялікоднаму світальнай.

Даводзіцца толькі здзіўляцца, як помніў мову, як адчуваў слова паэт, які практычна мала жыў на

Беларусі. Адчуваў гэтак глыбока і ўсебакова, што сам нават утвараў словы. І падчас цяжка разабрацца, дзе слова з Лёзненшчыны, а дзе слова, створанае самім паэтам.

Мне прыгадваецца паездка групы літаратараў родам з Віцебшчыны на нашу радзіму. Былі мы і ў Пагосцішчы. Ад хаты паэта засталося котлішча. Лісцінку бэзу ўзяў я сабе ў запісную кніжку, як запіску з вечнасці ад дарагога сябра. Была тады ў сваёй апошняй паездцы і наша таленавітая Еўдакія Лось. Самотная стаяла над котлішчам. Прыгадвала, што ад іхняй хаты пасля вайны асталося. Цяпер, перабіраючы лісты ад Уладзіміра, часта прыгадваецца журботнае котлішча. І ўсплываюць радкі з пасмяротнага першага зборніка «Жураўлінае вясло»:

Завітаў бы я ў Пагосцішча,
У лясочку б пагасціў.
Я б да той рачулкі госцейкам,
Як да маці, зачасціў.

Як бы прадчуваючы сваю раннюю смерць, сваё расстанне з радзімай, паэт выводзіць сімвалічную этымалогію сваёй роднай па пашпарце вёскі:

Ой, Пагосцішча, Пагосцішча!
На пагосце узрасло...
Ці яшчэ за мною гоніцца
Жураўлінае вясло?!

Жураўлівае вясло вяртае ў маёй памяці паэта і чалавека рэдкага таленту, адгуклівага, сарамяжлівага, вечна няўпэўненага ў сваіх вершах. Бранзавець у яго не было ні часу, ні жадання, ні нават малейшага намеру. Бо вядома, пакуль паэт сумняваецца, датуль ён жывы. Дазволю сабе прывесці колькі ўрыўкаў з лістоў, адрасаваных мне.

«Бяда ўся, напэўна, у тым, што я імкнуся, каб

у мае вершы прыйшло жыццё. Ды, праклён, прыходзячы, яно застаецца гэтакім жа непадлеглым кіраванню. І як у паэце не мае патрэбы ўва мне. У адваротным выпадку яно распадаецца. Вобразы, якія мне ўдаецца падгледзець у прыродзе, падчас проста цудоўныя і не маюць патрэбы ў дапаўненні да іх — гэта ужо гатовыя мікра-вершы.

«Маленькае чаяня вострыць аб неба крылы»

«Як інвалід, адну нагу ніяк не ссуне бусел»

«Зрэзаны капытамі сажалчын бераг»

«Буслова дзюба — чырвоны стоп-кран»

«Луг не скошаны — а выкатаны»

«Маці абграбае граблямі толькі што складзены стог»

«Забыты з восені на ўзвалку дзярбак»

«А гарбузовыя кветкі — галовы малых індычанят»

«Вялы пах ссечанай алешыны ў траве»

«Пасохлая цыбуля»

«Лісце агурэчнага націння — гусіны ланцуг»

«Рабацінне кропу» (Дзіцячае)

«Качаны капусты, як лакатары, ловяць хвалі будучых дажджоў»

«Мак, пастаўлены выспяваць ля сценкі»

«Хлопчыкі восенню на бульбянішчы з клібін «запускаюць» у неба бульбяныя спадарожнікі»

На радзіме — усё паэзія. Хочацца завязаць сабе вочы ў думках, бо ўсё роўна я не магу нічога выкарыстаць у вершах. Дык лепей не чапаць, не адкрываць. А без усяго гэтага я не прызнаю вершаў. Вось і тупік...»

І зноў сумненні, і зноў незадаволенасць сабой, сваімі радкамі:

«Мне жахліва прызнацца ў тым, як, відаць, і Вам паверыць, што я не пішу болей вершаў. Дакладней, яны не атрымліваюцца. А калі якія і просяцца

да завяршэння, дык не так, як я хачу. Але тут ужо я не магу саступіць ні ў чым. А ўсё тое, што напісана ў Мінску, мяне толькі раздражняе сваёй слабасцю, недасканаласцю. Бо яно не што іншае, як шалёны стэнаграфічны запіс дадзеных на кароткае імгненне блізкіх шчымлівых гукаў, пахаў, напаўценяў і нюансаў. І ўсё гэта без апрацоўкі, як быццам ведаў і адчуваў, што гэта адпушчана ўсяго толькі на час. Зрабіць вершы з усяго гэтага немагчыма...»

Валодаючы пяром майстра, Уладзімір называў сябе пачаткоўцам, бо заўсёды з прыроджанай беларускай сціпласцю памятаў, хто быў перад ім у нашай паэзіі:

«Калі ж, аднак... вершаў пакуль што і няма, то ёсць задумы, ёсць! Як і ў кожнага пачаткоўца, бо тым ён і цікавы. А праходзіць час — і нідзе яны не ўвасобяцца. Гэтага баюся і я. Бо пры маім узросце і разам з пятнаццацігадовымі стукацца ў адны дзверы... Друк мяне зусім не вабіць. Недзе на Лёзненшчыне ў райгазеце можна было б з палову змясціць. Усё роўна там, у тым краі, паэтаў не было і, відаць, не будзе...»

Дужа трэба любіць свой край, дужа трэба браць яго да сэрца, каб так катэгарычна заявіць. А Уладзімір Лісіцын быў чалавек тонкі, далікатны, інтэлігентны.

У нас была адна паездка на Ушаччыну, калі ўжо не магла прывеціць майго сябра, як іншых, бывала, мая мама. Былі мы каля мёрзлага пагорачка пад соснамі. Слухалі мы і халоднае дыханне Вечалля, роднага возера майго. Пасля Уладзімір напісаў верш, прысвечаны возеру. А ў лісце мне надзвычай прыемна і ўдзячна чытаць: «Не толькі вонкавы ўшацкі краявід здзівіў, уразіў мяне. Нечым другім дыхаеш там, за Лепельшчынай...»

І зусім зразумела мне туга Уладзіміра, яго ад-

чай: «Божа! Як гэта мяне ўсё злуе! І чаму толькі не дасталася мне ў спадчыну хоць старая-перастарая з бярвення матчына хата? Вось бы дзе мне, напэўна, пісалася добра! Ды нічога няма. Каменя на камені. А як хочацца ў Беларусь!..»

Туга па Беларусі жывіла паэта, з Беларуссю гаварыў Уладзімір Лісіцын па-беларуску, стараючыся не забыць ніводнага слова, ніводнай інтанацыі. Таму такія беларускія вершы, такое беларускае бачанне свету, такая беларуская плынь лісіцынскага радка.

Трагічна пачыналася жыццё, трагічна і заўчасна перапынілася. Але затое жыццё паэзіі Уладзіміра Лісіцына працягваецца. Паэт жыў у беларускім слове, жыў беларускім словам, і беларускае слова запрасіла яго ў вечнасць сваю.

Па свеце раскіданы магілы нашых паэтаў, ахвярнікаў роднага слова. У Ялце магіла Максіма Багдановіча. У Кракаве магіла Алеся Гаруна. Толькі радкамі сваімі яны ў родным краі.

У спякотным Джанкоі магіла беларускага паэта Уладзіміра Лісіцына. На роднай Беларусі вершы яговыя. Вершам трэба радзіма, радзіме патрэбныя вершы, у якіх яна жыве.

**Рыгор Барадулін**

# Вершы

## ПАГОСЦІШЧА

А што ж цябе прынясло,
Ці чаўначок, ці вясло?
*З народнага*

Завітаў бы я ў Пагосцішча,
У лясочку б пагасціў.
Я б да той рачулкі госцейкам,
Як да маці, зачасціў.

У траве залее месячык,
Што з падковай конь згубіў.
Адшукаць бы тое месцейка,
Пра якое не забыў!..

А за віку паламаную,
Пэўна, лаялі касцы...
Не люблю я палымянае
Больш даўгой тваёй касы.

Нашых хат імшаных готыка
Навастрылася да хмар.
Весяліся ўсё Пагосцішча,
Забадай цябе камар!

Мужыкі, пад плот валіцеся
З першака, як ад шчаўка.
Заспявае хтось — бязлітасна
Перакошана шчака:

— Стралец — не жылец,
Скамарох — нядбайны.
Лапцей не жалей —
Дажыві да балю.

Ды матуля з падаконніка
Выглядала да пары,—
Над сасной на ўзгорку сонейка —
Сумны клічнік дагары...

Ой, Пагосцішча, Пагосцішча!
На пагосце узрасло...
Ці яшчэ за мною гоніцца
Жураўлінае вясло?!

## БЕЛАРУСЬ — МАЯ КАЛЫСКА

Беларусь — мая калыска,
Маці белая мая,
Прыглядзі, каб, як калісьці,
Зноў не выкуліўся я.

Дзе такія дажджасеі!
А хаціны, як грыбы,
Белай ножкай зрубаў селі
У зялёную глыбінь...

Шапаціць крылом аеру,
Як падранак, азяро...
Хто не бачыў і не верыць —
Хай бы зайздрасцю ўзяло!

## ПІРАГІ

Праз акно закацілася ў печ нашу
раніцай сонца
Ды просіцца адтуль,
нават матчыны рукі цалуе.
А маці ўзяла
ды яшчэ прычыніла заслонкай:
Будзеш, сонца, пячы пірагі,
злуйся — не злуйся.

А сама пачала іх
з рукі на руку перакідваць
І стала падобнай
да дванаццацігадовай дзяўчынкі.
Мукой персыпле,
каб мацней трымалася скібка...
Цікава, а з якой яны будуць начынкай?

З бульбай, з капустаю, з вішнямі?
— Пабяжы ў агародчык, прынясі мне
кляновага лісця.
Паболей! — гукае маці.
Выйшаў.
А ўжо шэрань босыя ногі ліжа.

Ледзь дакрануўся да змёрзлага клёна,—
а ён як зазвоніць
Сотняй талерачак медных аркестравых!
І не хочацца з іх заглушаць мне ніводнай.
Хай бы званілі,
калі б не чакалі маці і цеста.

Гэты звон так любіць слухаць
наша старэнькая хата,
Бо на кожным лісточку
па запісу з крыкамі жураvоў.

Вось якая дрэвам ад птушак цудоўная плата!
Цётка ў горадзе болей бярэ ў сто разоў...

Прынясе мацi [redacted] сенцаў лапату драўляную,
Жар заграбе.
Як на трон,
пiрагi на кляновае лiсце паўсоджвае.
Зазвiнiць на цаглiнах медная гiльза,
даўно адстраляная,
I паедуць у печ снiць гарачыя сны пiрагi —
каралевiчы сонныя.

А як выедуць —
зверху памые мацi скарынку,
А знiзу будзе доўга ўглядацца
ў малюнак лiсцёвы.
Панакрывае бялюткiмi ручнiкамi...
Бацька б, напэўна, ўскрыкнуў —
Ён жа так любiў пiрагi цёплыя!..

* * *

Распрагу свайго каня.
На хамут аглоблi.
Гляне дзеўчына з акна
На мяне з-пад лоба.

Не глядзi, паглядай,
Не прыйшоў у сваты.
Адпачыць хвiлiнку дай
Каля тваёй хаты!

Выпраўляй тады на шлях,
Любая дзяўчына.

Будзе ўпартай грывы ўзмах
Зноў перад вачыма...

А табе — тваё акно
І спакой дзявочы...

— Заставайся! Усё адно
Не паедзеш к ночы...

* * *

Абражаюць няўмелага: «Рос сярод лесу...»
А гэта значыць,
што ён разумее мову птушак,
Чуе, як чоўгае лета
У зялёных галёшах па ліпеньскіх лужынах,

Бачыць, як сонца кожнага дня
лес фатаграфуе:
Раскладзе на траве
негатыўныя здымкі бяроз...
...А калі ўжо не там пераходжу дзе вуліцу —
дык штрафуйце,—
Я ж не ў горадзе рос!

* * *

Прысаліў град лусту араллі мякуткай
Ды паклаў за хатай з саламянай хусткай.
Будзе бульба сопкай, ды, відаць, салёнай;
Ратуй, дождык, бульбу, лісяй,
як з далоняў!

## ВАРЫЛІ ЎДОВЫ САМАГОНКУ

Ці, можа, выпаў год нялёгкі,
Ці дужа смутак падналёг? —
Варылі ўдовы самагонку,
Хто на падатак, хто за доўг...

У брагу кідалі каменне,
Расчырванелае ў агні,
Затым ставалі на калені:
Ці ўжо шумела, ці ані...

І ці за горыч, ці за здзекі,
Што іх мужчыны не прыйшлі,
З такой любоўю імі дзежкі
Захутваліся ў шынялі.

А павяртаючыся з працы,
Не выціралі добра рук
І прыпадалі прагна-прагна,
Як да мужэй пасля разлук.

Хто бачыў тыя вашы губы,
І жах, і горасць у вачах,
Калі вы асушалі кубак
Мацнейшай пробы первача,

Як гэту самую гарэлку
Вы аддавалі за рублі,
І як ад сораму гарэлі,
І як пакрыўджана раўлі?

Даўно не так ужо жывецца.
Ды ты ўсміхнешся, уяві —
Над дахам доўга дым віецца,
Нібы іржавы змеявік.

## БУСЛЯНКА

Стаяла, як сялянка,
Бяроза пры дарозе,
Бярозавіку шклянка,
Буслянка на бярозе.

Буслянка — весялянка,
Буслы па ёй хадзілі.
Буслянка над зямлянкамі —
Сонечны гадзіннік.

## БЯРОЗЫ

Бярозы, дык бярозы,
Да сэрца прырасплі.
Бярозы, як барозны
Заснежанай раллі.

Як рэха, да аблокаў
Плывуць увысь яны.
Як песні з-пад абломкаў
Той жудаснай вайны.

* * *

Што гэта будзе!
Усе з нашай вуліцы маці
Папрыходзілі сёння раней апоўдзень,
Хуценька паскладвалі ў даёнкі: булкі,
Беражоную гарэлку, слоікі з маслам —
Ды гукаюць адна другой: «Пойдзем!..»

Ідуць да лесу, нікуды не змінаюць,
Босымі нагамі кветкі падмінаюць
Ды спяваюць:

— Ой, вясна-красна,
Ружа-кветачка.
Я адна, адна
Ў бацькоў дзетачка.

Люлі-люлі, гэй,
Багацейшая.
З усіх падружак
Прыгажэйшая.

Ды такія галасы звонкія,
А таўкачыкі ў даёнкі яшчэ вызвоньваюць.
А пастухі таксама
Запарыліся.
У цяньку б ім прылегчы са статкам,
Ды нельга, за справаю:
Апошні вянок даплятаюць
Ды вешаюць нашай Малінцы на рогі.
Жанок сустракаць,
Жарты казаць:

— Сплялі вянок,—
Каб быў поўны збанок.
Дзе з рамонкаў —
Будзе многа.

Дзе з чабору —
Яшчэ болей...

Пасцялілі жанчыны абрусы
Адзін на адзін вышываныя
Ды давай частаваць пастухоў булкамі,

Зберажонай гарэлкай.
Зоркам, Красуням таксама панеслі.
Самі паселі
Выпіць па чарцы,
Як бывае не часта.

...Ідуць мацяркі дадому,
Пазабывалі пра лён непраполаты.
Пяюць, што вясна, што даёнкі поўныя.
Пахілілася маці... Што ёй прыпомнілася?
Малако пралілося ў рамонкі.
Моцна ўчапіліся пальцы ў даёнку...

## СТАГОЎКА

Стог складаюць жанкі ля дарогі
На манер, як хаты сабе рабілі:
Выбіралі спачатку месца доўга,
Накідалі падніз маладога рабінніку.

І пачалі прымаць з бакоў салому.
Доўгімі віламі сонца паддзенеш.
З поўнымі імі і дарасламу не салодка.
А тут яшчэ і дзеці.

І крычаць мацяркі ім: «Паціху!..»
Добра яшчэ, што надвор'е ў згодзе.
Весела. У залатым серпанціне
Усе, як у навагоддзе.

А ў адпачынак пачалі вадзіць карагоды.
Узяліся за рукі, стог абкружылі.
Тонкія галасы песню выводзяць,
Што самі злажылі:

— Ой, стог, наш стажок,
Вырас на вяршок.
Гэй, люлі, люлі, люлі,
Вырас на вяршок.

Пакуль сонца угары —
Падрасцеш яшчэ на тры...
Гэй, люлі, люлі, люлі,
Пакуль сонца угары.

А як сядзе за гару,
Дык да дому стагару.
Гэй, люлі, люлі, люлі,
Дык дадому стагару.

Завяршылі стог. Паставілі драбіну.
І пачала маці прычэсваць граблямі
яго заласцістыя кучары.
І нічога ў свеце яна прыгажэй не рабіла,
І ніколі б ёй гэта не надакучыла.

...Едзе дадому — аглядаецца доўга.
Жураўліным крыкам рыпяць калёсы.
Паставілі жанкі стог ля дарогі —
Атрымаўся косы.

## ВЕЧАРЫНКА

Цірлінь-там-там... Цірлінь-там-там...
У гармоніка мех паркалёвы.
Цірлінь-там-там... Цірлінь-там-там...
Іграе музыка вясковы.

На адной руцэ (цірлінь-там-там...)
Няма ў Цярэнція пальцаў,
Няма чым адбіць басовы такт,
Няма чым трымаць запалкаў.

Вайна іх аджэрла (цірлінь... Так! Так!),
А без іх атрымоўваецца карава.
Нідзе яны не іграюць там...
Цірлінь-там-там...
Цірлінь-там-там...
І тут яны не іграюць!..

Гудзе вечарынка — жарты, смех.
Малыя — і тыя збоку.
І быццам злячыўся прастрэлены мех —
Давай сабе звонка ды бойка:

Цірлінь-там-там...
Гучней веялі!
Гуляй, пакуль ёсць ногі.
Хлопцы, яшчэ музыканту налі!
Ён дужа з далёкай дарогі...

Цірлінь-там-там...
Цірлінь-там-там...
З далёкай дужа дарогі.
Цірлінь-там-там...
Цірлінь-там-там...
Іграе музыка вясковы.
Цірлінь-там-там...
Цірлінь-там-там...
У гармоніка мех паркалёвы...

## БУЛЬБА

Азызлы лемех зыркнуў напаследак,
«Маланкай» звёў барозны — не разняць.
І кліча маці змораных суседак
За непаседу-бульбу чаркі ўзняць.

Каб не сядзела доўга, не пазніла
Ды зацвітала хараша яна.
Каб цёплы дождж у ліпені насніла,
У верасні прасілася са дна.

Старэнькі стол пад грушынай аглушаны,
Загушкаліся шклянкі, праснакі.
Бялюсенькая побач села грушына
У чаравічках з матчынай нагі.

З усімі разам асушыла поўную,—
Нявесткай ля аконейка прайшла,
Пайшла скакаць па дваравым маркоўніку,
Жанчыны прыпяваюць ля стала:

Сож сажонкамі,
Гэй, перамахну,
Чужую жоначку
Дый пераману.

Пацалую моцна, гэй,
На віду,
Цераз мосцічак,
Ой, пераяду.

Наша ярына
Густа, зеляна.
Наша старана
Багацця паўна.

Б'юць аглобелькі
Рысакі.
Сіпатыя, злосныя
Гусакі...

Сцелюць мякка спаць
Свякровы...
Цёплыя стаяць
Пакровы...

На сёмым коле грушына самлела,
Прыстала на вуголлі... назаўжды.
Адчула маці басаніж ззалелы
Суглінак ля парканніка руды.

Адчула маці... Сэрцайкам дачула,
Што надта золкай здалася вясна.
— Расці хутчэй, зялёная дачушка,
Падмога трэба... Бо яшчэ вайна!

## АСТРОЎЧЫНЫ

Сярпы-кажаны! Сярпы-кажаны,
Досыць вам лётаць...
Жнуць бульбоўнік жанкі —
Зялёныя рукі па локаць.

Засені просяць астроўчыны — як не дасі?
Узнялі бульбоўнік на рогі
І стаяць, прыслухоўваюцца, нібы ласі,
Выйшаўшы на дарогу.

А як аголтаюцца — да столу-мяжы
Павязуць дзяцей на загорбках.

Дастануць жанчыны тупыя нажы,
Хлеба нарэжуць горку

Ды частуюць іх лустамі:
— Ешце, астроўчыны, ешце, дзеці, ану...
Цьмяны гурок у расоле,
як рыбіна з лускамі,
У місцы віруе па мелкаму дну.

Задаволена маці:
— Даўно б так.
Вы ж тое яшчэ зарабілі.
Добрыя астроўчыны!..

А недзе там
Бацьку забілі.

## БАЦЬКА

Бацька ў свята прачнуўся рана,
На белай кашулі расправіў раменьчык роўна
І стаў падобны да яйка,
мечанага ў краме,—
Па беламу чырвоным.

Скрыпнуў бацька дзвярыма
І мяжою пайшоў за гароды.
І круглая Зямля ў яго перад вачыма —
Як самая вялікая ўзнагарода.

Босыя ногі старая трава яшчэ коліць.
Хто гэта бацьку хадзіць басанож
ужо забароніць?!
Любіць зямлю. Казаў, каб знайшоўся лекар
дастаць з яе старыя асколкі,
Як самому бацьку нядаўна ў раёне...

Хай яшчэ паходзіць,
пакуль ісці на дэманстрацыю.
А я пабягу, ды ад мацеры ўпотай
Начышчу старанна
Бацькавы боты.

## ПУДЗІЛА

Пудзіла дзеці ставілі ў агародзе.
Убілі ў разоры бярозавы крыж
Ды смяюцца самі ля цуда гарохавага,
Рукамі махаюць: «Кыш, кыш...»

З будкі ватоўку зваляную выцягнулі,
Звязалі раменьчык з таго-сяго,
Нават у дзеда крывога выцыганілі
Піпку старэчую для яго.

Не хапіла толькі капялюха зверху.
— Бацькаў прастрэлены прынясі, карапуз!
А калі той прынёс —
дык вачам сваім не паверылі.
...Так і знасіла пудзіла
новенькі мой картуз.

* * *

Устрывожана поўня,
Кліча вывадак зор,
Каб якойсьці раптоўна
Не зваліцца ў разор.

А адна дык упала...
Маці ранкам ішла,
Ціха войкнула, стала:
— Ці не бульба ўзышла?

## У НАЧЛЕЗЕ

Пацягнула сырасцю
Ад ракі.
Распаўзліся сырмаццю
Бальшакі.

І ляцяць на вогнішча
Камары.
Не любіў дзед восені —
Мокрае пары.

Пад нагамі піскае,
Гразь на платы...
І згадаў дзед пінскія
Балаты.

Самалёты карныя
Над галавой.
Туманы, сатканыя
Напалам з крывёй.

Камандзір ад стрэмя
Адарваў нагу:
— Вы каня застрэліце,
Сам не змагу.

Выйсця нам не бачыцца.
Надышоў чарод
Зарывацца ў багну,
Дыхаць праз чарот.

Костачкамі вішняў
Кулі па вадзе.
З акружэння выйшлі
На чацвёрты дзень.

І цяпер з гадамі
Дзед шукае стрэч,
То каня згадае,
То жахлівы стрэл.

Ды, відаць, на золку
Сну не пабароць.
Дзеду неба зорнае —
З клёпкамі аброць.

Маладзік не ловіцца,
Ці наадварот...
На зубах саломіна,
Нібы той чарот.

* * *

Печ з чырвонай шпулькі агню
Зматвае шызую нітку дыму,—
Гэта маці так кожную раніцу шые
На сваёй цаглянай машыне.

Рукавіцам, мокрым з учора яшчэ,
У пячурцы сёння няма чым дыхаць.
Кот на печы не ўлежаў — выцягнуў шыю.
Дровы пішчаць, бы ў падполлі мышыным.

Горача! А маці на самы каптур
Мыла паўсоджвала, каб было эканомна.
А яно без вады аж смягне.
Вось-вось дасць нырца ў вёдры цьмяныя.

Але добра затое бачна яму, хто прыйшоў:
Сіта хлопчык суседскі прынёс на руках,
як карону.
Або зойдзе з пакосу суседка,
ад стомы млявая,
Сцербаліны галінку пакіне для мяне маме.

Шчэбет птушыны за вокнамі — сам запяю.
Гарачая матчына слязіна ўпала на загнетак.
Другая просіцца.
Навошта, мамачка?!
Я ж ужо нічога не запалю.
Я ж ужо дарослы.

## МАК

Пад восень мак даспеў ля цёплых сценак.
У маці радасць. Белае пасцеліць.
Пачне той трэсці мак
Уніз галоўкамі...
І конікамі шпарка загалёкаюць
На белай капе чорным зернем мачыны,
І светлыя такія вочы матчыны!

Пад вечар нават бульба маладзіцца,
Гуркам насупраць, як гасцям, садзіцца.
Дагэтуль чую, як калісьці змалку:
— Ціха ж гэта ў хаце, браце, нестачоўка,
Калі дыміць у гаршчыку таўчонка?
З макам!

## САРАКІ

Прыляцела сорак птушак
На вясновую нараду:
Ці яшчэ дубцом пастушым
Праганяць зіму не рана?

Ці яшчэ вяртацца нельга,
Бо ляжаць снягі упокат
І жаўцее сонца ў небе,
Як стары курыны поклад?

Прыляцелі весну сватаць.
Зіма-маці сустракае.
І завецца гэта свята
У народзе саракамі.

Саракі, саракі!
Хлопцы падурэлі —
Аж да самай страхі
Лётаюць арэлі.

Напякла саракоў
Матуля пшанічных.
Хутка сорак гадкоў,
Ці не час жаніцца?

Прыляцела сорак птушак,
Сорак рэчак разлілося.
У лашчыну грак патупаў
З асаблівай весялосцю.

Ажыла зямля, запела
Перагудам дрэўных сокаў.
А ўсяго і прыляцела
Гэтых птушак толькі сорак...

## КУПАЛІНКА

Моладзь святкуе Івана Купалу.
Вёсцы сягоння спаць не прыстала.
Кола жардзінамі ўзнімуць высока,
Дзёгаць палае. Вясёла, вясёла!

Рыпнуў прыступак —
Любы пастукаў.
З любай у садзе
Побач прысядзе.
А пацалуе — на небе сёмым.
У карагодзе — вясёла, вясёла!

Ціхая мова, ціхая рэчка...
Ночка такая: атруціць, палечыць.
Вынырне сонца падвуджаным сомам.
Свята якое!.. Вясёла, вясёла!..

## ПЕРАЛЕСАК

Пералесак, пералетак,
Ты чаму не вырас?
На зялёнай сукні лесу,
Як на грудзях выраз.

Прыкрываюць сарамліва
Цябе вершаліны.
Пацалункаў след шчаслівы,
Як твая маліна.

* * *

У высокім пахучым маліннiку
Парабілі хады тунелямі.
Цётка ў лес увайшла — памалілася,
Каб з лясной пачварою не стрэлася.

А яна то прыкінецца зданню за кусцікам, —
Голас чуць, а нікога не бачыцца, —
То чапляе дзявок за чырвоныя хусткі,
То прывяжа травою сандалі бабчыны.

І старая падоўгу стаіць, перагукваецца.
А далёкае рэха спалохана коціцца:

— Заваджу, звараж, восць і будзе навукаю,
І маліны тае не захочацца!

— Калінка-малінка, малінка мая,
Ты дзяўчына мая, Іванчаінка,
Цалаваў бы цябе, каб не быў размазня,—
Нахіліцца ніяк не адчаюся.

Эх, хаджу, хаджу, хаджу...
Чырвоныя вёрсты!
Я на дзевак не гляджу —
Заглядаю ў вёдры.

У якіх адразу шчокі —
Чырвоная замша.
Пабялеюць, мусіць, што як
Павыходзяць замуж...

Ўжо вясельныя песні гудуць камары,
Зачараваны лес перапевамі.
Пакацілася сонца з высокай гары,
Як маліна ў травуераспелая.

А я скочу маўчком
Ды за тое сонейка.
Буду есці з малаком,
Каб не дужа соладка!

* * *

Пасаджу вярбу
Ды пад сонейкам.
Хлопца завярну
Да аконейка.

— Ты расці, вярба,—
Дружка правая,
Сохні, галава
Кучаравая.

Не расці вярбе
Побач з вішняю.
Пакахаў сабе
Хлопец іншую.

Пакахаў ці не —
Толькі дражніцца.
Ой, не спіцца мне
Аж да раніцы.

## ТАЎКУЧКА

Таўкучка-дакучка!
Хадзіць надакучыла
Ад кучкі да кучкі,
Нагамі акучваць
Міжраддзе стракатае,
Старыкаватае.

Плацце цыганчына
Ворчыкам цягнецца,
Вабіць да глянцу
Цыганку-цаглянку.
Пакажы шоўку —
Будзе ў шоўку...

Дзяўчаты страчаюцца,
Вачыма стрыкаюцца.

З імі б у пацапкі,
А ім абы пацеркі...

Галіфэ-маршчыны
Прадае мужчына:
— Не прадам — у нядзелю
На вяселле сам адзену.

— А што б я сабе купіла! —
Баба з дзеда побач кпіла.
— А купіла б сабе я
Маладога салаўя...

— Ці ты, баба, угарэла?
Я ж зусім яшчэ гарэза.
Пакажу ж табе, што я
Не горш таго салаўя!..

А хлапчына-дзівачына
Ледзь не памірае:
У бульбоўніку дзяўчына
Сукню прымярае.

Ды дарэмная надзея.
Ат, бяда якая:
Да сярэдзіны надзела,
Далей не пускае.

Ну, таўкучка-валакучка,
Не падманіш болей.
Адабрала паўпалучкі,
Натаўкла пад бокі.

* * *

Лазовыя клібы ля дзедавых ног...
Палюе на іх маладзенькая кошка,
Шаволіцца вусаў ледзь-ледзь васьміног.
Стары даплятае зялёненькі кошык.

Нявестцы ў гародчык хадзіць па гуркі —
Звальняць ліліпутаў з палону нацiння.
А грудзі, нібыта на ўзводзе куркі,
Вось-вось іх стракатая сукня націсне.

А тут, як на гора, ў лашневе грыбы...
З суседскага боку паспела клубніка.
Дык хай яго... кошык той, столькі журбы!
Няхай лепей будзе у хаце клібіна.

* * *

З воза не бачна унізе каня,
Лейцамі зверху не накіруеш.
І выпараецца гарачыня
З сена зялёнага, з потнае збруі.

Цётцы гады, як вазы за вазамі.
Гэтых таксама убок не звярнуць.
— Можа, гады тыя дрэнна ўвязала?
Ехаць далёка... Назад павярнуць?

Песня дрыготкая колаў павольных
Зводзіць у сон, трапяткі і чуткі.
Толькі б не выцяглі часам, сваволячы,
Загваздкаў хлапчукі...

## ДОЖДЖ

Зялёнаму жыту прыйшло каласіцца.
Цяпер на часіну б не трэба дажджоў,
А ён, як на ліха, на белы ласінец,
На чорную глебу пайшоў і пайшоў.

У цёплай зямлі паварылася бульба,
Паруе глыбокі бульбяны разор.
Імклівай вады навароджаны булькат
Бярэ па каменнях да рэчкі разгон.

## БУСЛЫ

Прагна п'юць з тарфянікаў буслы
каву чорную.
Ды, відаць, гарачая — дзёўб, дзёўб...
Гэтак па глыточку, доўга, незлічона.
Каб вам так напіцца, колькі трэба дзён?

Гэтак вы, напэўна, дзетак не пракорміце.
А яны, галодныя, разяўляюць рот.
А вы часам, буслы, ботаў не праколеце?
Наступіць нядоўга на калючы дрот.

А яны ў вас новыя, нават не закрыўленыя,
Хоць і многа выпала на вяку хадзіць.
Узляцелі буслы, замахалі крыламі...
Ды не здагадаліся каву астудзіць.

* * *

Дзвярная клямка не настудзіць пальцаў,
Духмяная у сенцах цішыня.
Адвечар бацька зноў вярнуўся з працы
І на двары стрыножвае каня.

Яшчэ ёсць час гуркам бакі адлежаць.
Апоўдні пах распаранай травы,
А ранкам на далёкую адлегласць
Залёты практыкуюць журавы.

## ЗГОДА

З чатырох далоняў дом
Мы сабе збудуем.
Сцены ёсць — жыві ладом.
Дождж — перабядуем.

Снег паваліцца — ніштo,
Серабрыць галовы.
Дай жа рукі! Ну дык што?
— Я на ўсё гатова.

* * *

Бор з журавамі не просіцца ў вырай.
І не таму, што не лётаў даўно,—
Ён на зямлі нарадзіўся і вырас.
Іншае шчасце — навошта яно?!

Змоўклае поле зноў аглядаю.
Суму сабралася шмат на душы.
Што, каб яшчэ і бары адляталі
З доўгай узлётнай стужкі шашы?

Маці ў адчаі: — Задубне ежа!
Госці змарнелі... Ці дзьмеш ты ў вус?
І, як вялікую Белую вежу,
Ставіць бутэльку на белы абрус.

* * *

На пяннішчы вырас малады рабіннік,
На суглінку стыне кволы іван-чай.
Развітанне полю гусі пратрубілі,
Закранулі сэрца быццам неўзначай.

Не сумуй, рабіннік! Станеш дужым лесам.
Адагрэеш ногі ў чайніку, Іван!..
Я і сам шкадую, што не вернеш лета,
Што дажджы находзяць узамен жнівам...

* * *

Адымжаць дажджы блакітнавокія,
Вось і восень — злоўшчыца надзей.
Рэжуць гусі белы свет за вокнамі,
З дня на дзень ватоўчыну надзень.

Змогла ляда сярод лесу змоўклага,
Згорк лясоўчын яблык на краі.
Да вясны усім сватам адмоўлена.
...І бабоўнік счах на карані.

## КАЧАНЫ

Урадзілі качаны.
Добрае качэнне.
Прадавай за паўцаны,
І няма сканчэння.

Каб у горадзе, дык — бой...
Я ж купнік дакучы.
Перабралі ўжо з табой
Дзве ці болей кучы.

Мне качэнне менш за ўсё —
Не такі ахвочы.
Падабаліся, і ўсё,
Капусцяны вочы.

* * *

Вы чаго, вы чаго
Б'еце, хвалі, понач?
На далёкай Вычагдзе —
Далёкая Поўнач.

Закахаўся, паляшук,
Я у палясоўну.
Чаму ж змоўчала, што тут
Не бывае цёмна?

Вечарком прыцемкі,
І адразу днее,
Пацалуй спрыценька —
Болей дык і нельга.

На віду не павяду,
Павяду ля межы.
Павяду, завяду
Аж да Белавежы.

Ноч такая, хоць куды.
Ну, чаго злавацца?
Можна будзе сапраўды
Хоць нацалавацца...

## БАЙРАМ

Стэп навобмацкі абшар —
Можа, выйдзеш да кашар.
Ёсць кашара. Дзе чабан?
Анямееш, як чурбан:
Ні гірлыгі, ні чабот.
Дзе ярыгу носіць чорт?
Мо смяяўся Ібрагім:
— Будзеш госцем дарагім...
Дарагім разком другім...
Пачакай жа, Ібрагім!
Жартаваў бы з кім другім.
Будзеш помніць, Ібрагім...
Хай бы згінуў той балык.
Хай расце баран, як бык.
Не зварыўся б твой тузлук.
Ног не чую, нават рук.
Ёсць біклагі дзве віна —
Сяду, вып'ю ўсё да дна.
Аж адкуль ён, Ібрагім...
Ібрагім і статак з ім.
Б'юць далоня аб далонь,

Пад катлом жыве агонь.
Да чаго смачны баран!
Рэч цудоўная байрам.
Нам парожніх дзвюх біклаг
Не даруе твой алах.
Што там сена, што павець —
Цёпла спаць сярод авец.

## СВАРКА

Варáць сварку Ганна з Варкай —
На ўсю вуліцу прыварку.
Варáць шпарка,
Варáць жарка,
Аж язык смыліць, як скварка:
— Каб пярун цябе пашчэп.
— Каб схуднела ты ушчэнт.
— Каб мужык твой быў круцель.
— Каб не знала ты дзяцей.
— Каб не знала ты радні.
— Каб ты спала толькі ўдні.
— Каб крануўся розум твой.
— Каб каровін спаў надой.
— Каб цябе сабака еў.
— Каб язык твой занямеў.
— Каб сынам зазнаць смярцей!
— Ці ж так можна на дзяцей?
— А як ты на мужыка?
— А як ты да малака?
— А як ты маю радню?
— А як ты мне спаць на дню?
— Больш ні слова я табе,
Каб не помніла сябе!..

## ХЛЕБ

Хлеб паруе на стале,
Хлебу хаты не стае,
Пах ідзе да неба,
Што вышэй ад хлеба!

* * *

Рыпнуць філёнкі
Аж пад ранак.
Босыя ногі,
Зраселы ганак.
Ганак зраселы,
Я зрадзелы.

На двары трава —
Пацалуй спярша...
На траве дровы —
Бывай здаровы...

Цябе дакараю,
Тваю хату з краю.
Пацалую ў апошне,
Паплятуся на пожні...

* * *

Прыйшоў сват на заручыны —
Вусы не закручаны.
Пакуль вусы закруціў,
Размову скараціў.

— А ці п'юць у вас
На вяселлі квас,
А ці горкую
Цягнуць з горкаю?

— Ой, не п'юць, не п'юць,
За каўнер ліюць...
Бяры чарачку —
Заручаначку!

Выпіў сват, захмялеў,
Зусім пасмялеў.
Хоць ты сам бяры жаніся —
Дзеўку ж высватаць сумеў.

* * *

Зганяў пастух апошнюю радоўку,
А ляду сніцца учарашні рык.
Ад голых пнёў няма нідзе пратоўку.
Пратоку замяло лісцём старым.

Услед зашкліць жаробчыны капытцы,
З'інелы воз дрыжыць на бальшаку.
Пайшоў гусак да сажалкі напіцца —
Ідзе дамоў па першаму сняжку.

* * *

Восень чуйная да раны
Прыкладзе падбелу.
Забінтуе снег старанна.
Стане белым-бела.

Не трывожце, не турбуйце
Ды ступайце мякка.
Зноў матулі сну не будзе...
Спі, зямелька-матка.

## НАША ВОСЕНЬ

Упала першая дажджынка —
Слязінка восені дажджной.
А толькі ж справілі дажынкі,
А толькі ж пахла збажыной.

Жытнуюць поўныя засекі.
Жыруе качар дваравы.
Часцей сыходзяцца суседзі,
Гарэлку п'юць за пакравы.

Чырвоны ліст асіны стромкай
На жоўтай кружыцца вадзе.
І вецер дзікі рве пастромкі,
Як нешта цяжкае вязе.

* * *

Ішла песня з поля
З косамі, граблямі.
Белая хусцінка
З белымі грыбамі.

У набірцы маліны,
У паясе каліна.

Падышла да вёскі —
Словы разгубіла.

Новенькія хаты
Галасы пабралі.
А наша старая
Далёка стаяла.

## СОН-ТРАВА

Не касіце сон-травы,
Сон яна прысніла.
Асцярожней, журавы,
Плачце напаўсілы.

Я і сам засну, ці не —
Бацькава пілотка!
Хай хоць травам будзе ў сне
Шчасна і салодка.

* * *

Паляўнічы, паляўнічы,
Чым твой дзень адзначан быў?
Каб табе не паляніцца,
Ты б вавёрку раздабыў.

Куля б трапіла ў вока —
І зьярочак толькі й жыў.
А патрафіла б, і воўка
На сумеце разлажыў.

Я таксама паляўнічы
І нядрэнна быццам біў.
Не сказаць, што паляніўся,
А нічога не здабыў.

Зноў пайду ласінцам белым,
Дзве лясоўчыны знайду.
Ад мяне не трэба бегаць,
Ўсё застанься на віду.

Пахарошыць рукі срэбрам
Жыта новага пасмо.
А паэзія не стрэльба,
Калі выстраліць — само.

* * *

На прызбу мужчыны паселі
У белых вясковых кашулях.
— Ну, як там у полі пасевы?
— Ды быццам уродзіць, скажу я...
— Якім жа вянцом залажылі
Цімохаву новую хату?
— Магчыма, што з новай збажыны
Ў ёй баль адбалюем багаты...
— На дворышчы б вырыць калодзеж.
Здаецца, вада не глыбока...
Сядзяць яны локаць у локаць,
І кожны мудрэйшы за бога.

## ВАРАЖЫЛА МАЦІ

Чорная цыганка
Маці варажыла.
У зубах цыгарка:
— Заплаці грашыма —

Дам табе параду —
Дзякаваць век будзеш,
Не крыўдуй за праўду —
Горачка набудзеш.

Два сыны ад дому
Паедуць далёка.
Гэткая іх доля —
Сокаламі лётаць.

Як не хоча крыку
Матуліна сэрца —
Павяжы ім крылы,
Не пускай ад сенцаў.

Гаварыла маці:
— Хай лятаюць з воляй,
Адно сэрца маю —
Падзялю абодвум.

Хай мацнеюць крылы —
Вышыню падолець.
Калі праўду «крыла» —
Выдатная доля.

## СЫНУ

«Крымскі дождж» — буран пясчаны
Дзьмуў у лютым за дваіх.
Пылам вокны запячатаў
У пасёлку Ак-Шэіх.

У заліве Каркініцкім
Хвалі білі ўвышыню.
Вось тады нам парадніцца
Давялося ўпершыню.

Мартыны́ сцішалі мора,
Каб твой сон не абудзіць.
Я тады падумаў: можа,
Набяруся там бяды,

Што не ўбачыш, як абрусам
Белы снег лугі накрыў...
Што за бацькам-беларусам
Беларусь змяніў на Крым,

Не нап'ешся з тых крыніцаў,
Не палюбіш той зямлі.
Родным стане Каркініцкі,
Чарнаморскі той заліў.

І, чаму няма замены,
Без чаго я сам не жыў,—
Для цябе незразумелым
Застанецца і чужым.

Ды дарэмна я бяруся
Бедаваць. Адно: «Куга...» —
І пазнаеш беларуса
Па прыроджанаму «га»!

* * *

На сопках спелыя маліны —
Бяры ў Ярмачак па вядру.
Калі б такая заманіла,
Лічы, з канцамі у ваду.

Спялеюць вусны сібірачак
(Памада й збоку не была).
На поўдні, кажуць, шмат гарачых,
А сібірачкі — дабяла.

Кранеш знячэўку — апячэшся.
Вачэй узнімецца мядзведзь:
— Для пачынаючых пачэсна
Было б спачатку й паглядзець.

* * *

Цыганка прывакзальная,
Джанкойская Джаконда,
Навошта прывязалася
Ты да мяне, як шкода?

Не трэба тых надзеяў мне,
Якімі ты надорыш,
І словам, як адзеннем,
Трасеш — не дагаворыш.

Скажы, ці восень-сплаўшчыца
На Свіслачы ды Нёмне
Да берагоў прылашчыцца
Трывожна і знаёма?..

Ці кволы куст калінавы
Лісцё сваё асыпаў?
Ці жураўліным клічам
Расчулена асіна?

## ІВАН-ЧАЙ

У Снежнагорску лета, выбачай,
Не больш за нос, што гулькіным завецца.
І раптам сустракаю іван-чай —
Знаёмае малінавае вецце!

Як быццам нехта кволы паланцін
У роспачы на камені забыўся.
Ці так, як я, блукаеш між плацін,
Ці так, як я, дамоў з дарогі збіўся?

* * *

Мне б з раўчукамі зялёных вагонаў
Плыць у далёкі той лёзненскі край,
Дзе і алешына боліва гоіць...
Тут жа калючы, як вожык, курай.

Падаюць зоры у стэп кажанкова.
Хваляў Сіваш распатлаў калтуны.
Тут, у маленькім далёкім Джанкоі,
Нехта не хоча пазбыцца Дзвіны.

Дзякуй табе за ўспаміны, бяроза!
Вецце дакорам пры стрэчы абруш.
...Месяц у небе нарэзаў барозны,
Тварам шырокі — што той беларус.

## ЛЁЗНА

Асеў жарабком цягнік... Лёзна!
З лавак ажно нараскід хатулькі —
Гэтак падэшвамі рэйкі з'ялозілі
Бабы, шыбуючы наўпрасткі.

...Дык жа пабраўся мароз з крапівою —
Досыць стрыкаць недачэпным дзяўчом.
Чутна далёка, як недзе пілою
Крышаць на зімку грушу-дзічок...

Вось і шаша. Хоць ты зноў станавіся —
Спыніш на колах зялёны шкап,
Шафёр-смаленшчына кіне: «На Віцебск?
Семдзесят коп...» А па-нашаму «кап».

Лісце лаза, як рублёўкі, тахоліць.
Лозна у Лёзне! У рад пакладзі —
Усім навакольным накольнікам хопіць
Зялёнай і гнуткай лазы.

* * *

*М. Вараксу*

...Зор зеляпухі спеюць у травах.
Першым салоўкам азвалася ноч.
Дрэмле салодка бяроза старая,
Быццам матуля, не чуючы ног.

З ночваў азёр туманы, як бялізна,
Ціха плывуць за брыжы берагоў.
Чым ты, бяроза, свой тварык бяліла?
Можа, карынкаю з тых пірагоў,

Што павыцягвае маці з духмення,
Што, быццам дзеці, глядзяць праз ручнік?
Ведаеш ты, як прыемна і хмельна
Жошкі ручай на радзіме журчыць,

Як пралятаюць шпакі да галявін
І карагодам крыгуюць ільды,
Як па-старому вяселлі гуляюць,
Як счырванее жаніх малады.

— Ажаніўся мех,
Торбу ўзяў.
Непрыгожую
Пакахаў.
Непрыгожую,
Лютую.
Жоначкай назваў
Любаю...

## ЖАЛЕЗЗЕ

Жаўрук так выцінае на жалейцы,
Што пот цурком з малога спевуна.
А маці рые яму пад жалеззе,
Якоеназапасіла вайна.

Я і цяпер знайшоў бы тое месца.
Ці толькі тое? За любым хляўком
Капні — і столькі стрэнеш сталі,
медзі!..
...Ячмень зялёны выбіўся штыком.

* * *

Спыню ля прасекі хаду —
На момант прыслухацца варта:
Слупы, як дзядоўскія кварты,
Празрыста і хмельна гудуць.

І ў песні пра зыбкі масточак,
Пра ціхі ракітавы куст...
Матулі маёй галасочак
Званчэйшы за чутыя тут.

* * *

Сані ўверх палазамі
На калгасным двары...
Мох дыміць між пазамі —
Можна бульбу варыць.

А заснеш, дык не крыўдна
Пагудзець шчамялём,
Яшчэ зверху накрыцца
Маладым ячмянём...

Дыхай золлю зялёнай,
Пакуль спёка падзе.
Ходзяць коні — не зловіш —
Па зялёнай вадзе.

Мёду рэкі — не лекі —
На калгасным стале...
А вось дзёгцю на лета
Сапраўды не стае.

* * *

Стамлёны конь выходзіць на аблогу
І цягнецца да роснае травы.
Лятуць дамоў налёгку журавы
Па шэрыя птушыныя абновы...

## СПЯВАЕ НАША ГРУША

Бліскучае націнне правадоў
Да сценак пачаплялася няроўных,
Хоць ты яго прадоўж да гарбузоў —
І весялосць якая ў агародзе!

Паваляць, як салдаты да платформ,
З гурочніка гуркі зялёнай грудай.
Спявае у сланечнік-мікрафон
Смуглявая дзяўчынка — наша груша.

## АСКАНІЯ-НОВА

І я спрабаваў на дарогах Таўрыды
Машыну спыніць, каб пад'ехаць,— ані!
Куды той Севіль! Такую карыду
Нідзе больш не ўбачыш у нашыя дні.

Амаль «галасуеш» пад самымі коламі.
Каб тым самазвалам ды толькі рагоў —
Дык пэўна, што ўжо не дажыў бы да скону
І з сырам, як кажуць, не еў пірагоў...

Чырвонай з загару спіною-мулетай
Дражнілі вандроўнікі вочы кабін.
...Даўно ўжо не чула херсонскае лета
Траскучых цыкадных такіх каламбін.

Аўтобусік наш — не такі адмысловы.
І ён, як вядома, усіх не забраў...
Асканія-Нова, Асканія-Нова —
Лясны запаведнік між спаленых траў.

Начлег у Кахоўцы — маршрут жа
двухдзённы.
І што ўжо за Новая тая Асканія?
Абмыўся плацінпай вадой-халадзёнкай,
Віна маладога адведаў...

І вось мы апоўдні ўжо экскурсанты.
Каменныя ідалы збеглі б у стэп.
Ты тут падняволены, браце, таксама —
Агледзіш спачатку за стэндам стэнд,

Затым абыходзіш стаўкі і вальеры:
Фламінга, бізоны, вуця, папугай...
Нарэшце — вачам сваім нават
не верыш,—
Сапраўдны, як ёсць, вершаліністы гай!

Ён дыхае цяжка ад стомы імлявай,
І ловяць паветра жабрыны ялін.
У небе пазвязванымі хатулямі
Знаёмыя грузна плылі жураўлі.

Расчуліцца песня каго не прымусіць?
Пабег бы за імі, не чуючы ног.
Я так наглытаўся тады Беларуссю,
Што потым не спаў не адну яшчэ ноч.

Здзіўляліся побач ракітам плакучым,
Сапраўднай траве і зялёнай вадзе.
...А хтосьці мяне між пружыністых купін
Знаёмым ласінцам да дому вядзе.

Прыціхлая сажалка з хліпам чароту,
Ячмень учарашняю ноччу ўзышоў...
Здзіўляюцца ледзь уцалеламу гроту,
А хто б з іх за грошы туды увайшоў?

Тапельцамі дрэвы хапаюць карэннем
Лясную аблогу, як можна глыбей.
Асканьская восень —
бухгалтар старэнны —
Дала пад улік мне лісточак-рубель.

Шафёр нас паіў прэснаводкай з канала,
І зноў сярод пылу аўтобусік груз.
Асканія-Нова! Я так дасканала
Не ведаў дагэтуль сваю Беларусь!

* * *

Я не быў такім абрабаваным,
Болю шмат абуранай душы —
Бусла на фанеры фарбаванай
Стрэнеш у Палтаве ля шашы.

На назе чырвоная падманка,
Быццам ён таптаўся на агні,
Чорныя, як матчына падмазка,
Крылы апусціцца не маглі.

Вочы ўзняты некуды далёка.
Што пабачыць, што пачуе ён?

Мне згадаўся родных буслаў клёкат,
Беларускі нізкі іх паклон,

Ручаёў лясная патаемнасць
І альховы прысмак азяркоў.
Я б забыць намогся іх дарэмна,
Я б не збіў каменных тых замкоў.

Тых, якімі да цябе прыкуты,
Беларусь адзіная, штодня.
Я — твой боль, і я — твае пакуты.
Я — тваё жывое бусляня.

* * *

Лета мурог вышывае суніцамі,
Выпрастаўшы на бярозавых пяльцах.
Перапляліся ў пальцах
Чырвоныя з зялёнымі ніткі.

Горача. Лесу кашуля расшпілена.
Зялёных конікаў аўтакалона...
Не ягады перацiскалі мы,
ягаднікі пільныя,
А ты сабе, лета, далонь укалола.

У любай такія салодкія вусны!
Зноў, як да мёду, да іх прыпаду я.
Цень паўзе ледзь рухома, як вусень.
Ці то цябе маці твая пільнуе?

Дзень да звячорку ласкава горнецца,
Кошык няпоўны зноў на дваіх.
Дрэвам і травам горача, горача,
Пэўна, што ад пацалункаў тваіх.

## ВІШНЯ

Бедавала вішня —
Смуглявая дзеўка:
Позна замуж выйшла —
Дробненькія дзеткі.

Цыбатыя дрэўцы
За падол тармосяць.
А шпакі, як дзеўцы,
Пацеркі прыносяць.

Не пазнаць смуглянку:
Ягад-завушніцаў!
...Гляну, хлопцы, гляну —
Боязна жаніцца...

* * *

Кружляе і пружыніць у гарах
Дзіцячаю юлой дарога поўдня.
Напэўна, вып'е мора Аю-Даг,—
Глядзі, яно зусім ужо няпоўнае.

Дэльфін не зняў свой дырыжорскі фрак,
Нырнуў. Куды б? Адразу бачна хвата...
Дзяўчына, нібы белы нотны знак,
Плыве, як на лінейцы нотнай — хвалі.

Зняў акуляры. У пальцах пакруціў.
І поўдзень, ён нішто сабе, вядома.
На тоўстым шкле разбегліся кругі,
Нібы ў маленькай сажалцы ля дома...

* * *

На дворышчы паспела канюшына.
На зіму грэлі месца камяні.
Магчыма, маці ежу ганашыла...
Я далаваў ля дроўні камялі.

Дубовы клін — адменны памагаты —
У дрэва вяз, як у мякоць дрыгвы,
Пакуль крылом яму не памахалі
Ляцелі што у вырай журавы.

І ён падскочыў бокам, крыва-крыва,
І з болем крыкнуў... Таямнічы змест!
Адкуль маглі ў яго з'явіцца крылы —
Я не магу дагэтуль зразумець.

Унізе рэчка бант вязала стужкай,
І плыў ільнішча выбраны загон.
Драўляная знясіленая птушка
За песнямі ляцела наўздагон.

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА

Дарога з вазоў зацярушана сенам,
І скачуць бліскучыя жабы падкоў.
Вярхоўямі ўгору самшыў нехта сцены
Зялёнага лесу з абодвух бакоў.

З атос узняліся стракоз дырыжаблі,
Да сонца за імі вачэй не прыўзняць.
...Зялёная папараць збоку, як жабры,—
І дыхае лёгка таму беразняк.

## ЛЁН

Латышскі склеп. Гарачае каменне
Ўдыхае пах гаркавага ільну.
Ляціць кастра, мяцеліць на калені
І асядае пылам на сцяну.

Трапалі лён. (Трапалі плашчаніцы!)
Трымалі рукі жорсткую касму,
То, як касу, пад пахай прышчаміўшы,
Адшуквалі апошнюю кастру.

За склепам крэп мароз, і дрэвы крэплі.
Кракталі ў дзень на сажалках ільды.
...Стаіць матуля у спадніцы зрэбнай
І гладзіць шаўкавістыя ільны.

* * *

Ты прайдзіся босы за ратаем,
Самакрутку з дзядзькам закруці,
Баразну бясконцу, пpыталеную
У павольных марах скараці.

Чуеш? Нескароджаная бульба
Цягнецца з падзем'я да святла.
Пад акном шпачыны першы булькат,
Як з бутэлькі ў свята ля стала.

Прытаміўся конь — пацягне лейцы,
Выйдзе на узмежак з баразны,
І наўкол запахне цёплым хлебам,
Вырашчаным тут, не прывазным.

* * *

Рабін чырвоныя агні
Нагадваюць аэрадромы.
Мяне ты, сэрца, дацягні
На вышыні малой да дому.

Ты дацягні — бяды ані,
Што не з нябёсаў плыў прыгожа.
Мяне ты толькі дацягні
Да той танкавай агарожы...

Сядзіба матчына!.. Змакрэў
Халодны камень пад дажджамі,
За зіму месца не сагрэў...
Ухопіць бусел кроплю жару.

Пачне паліць лясы, палі.
Пажарышчам шугае восень...
Хто гэтак рана апаліў
Маё русявае валоссе?

* * *

Паўліны хвост аеру адвячоркам
Фарбуе ў ціхай сажалцы ваду.
Ці раскажу, як галавою човен
Ківае, нібы конь на паваду?

Здаецца,
                ў дождж маланка блісне спрытна
І пабяжыць па чорнай араллі...
А гэтак бацька замахнецца брытвай
І пройдзецца лязом па рамяні.

## ЛУГ

Якія кросны цябе ткалі,
Мой луг, мой дружа найтрывалы!
Куды цябе зімою клалі,
Калі сталоў не накрывалі.

Што зноў цвіцеш ты, як звычайна,
Халодных зім пазнаўшы столькі?
...І белы бусел, як той чайнік,
Кругамі ходзіць па застоллі.

* * *

Недзе ў ціхай завадзі шчупак
Дыхае, як граецца марзянкаю.
І ваду вяслом хоць не чапай —
Разаб'еш квяцістую мазаіку.

Недзе завушніцы на вярбе,
Нібы ў той нявесты прынараджанай...
Недзе — гэта ўсё вакол цябе
І табе аднаму прыпараджана.

Не губі таго, што караньмі
Злучана з зямлёй жывымі сокамі.
Хараства лугоў не закрані
Нават неабдуманымі словамі.

Пакланіся велічы лясоў!
Хто цябе пісаў, мая Радзіма?
Беларусь, любоў мая без слоў,
Белая, блакітная, адзіная.

* * *

Ціха ля берага ўсхліпнуў плыт.
Баіцца, што на сярэдзіне ўтопіцца.
Ад вады бярвенні цяжкія ды тоўстыя,
А патрэбна плыць!

Гром перавозіць за рэчку ціха,
Бо ў небе ж лунае адно толькі рэха.
Праўда, яшчэ існуюць міфы...
Ды то маладых з маладою праехаў.

Іх пераймаюць. Жаніх аддорваецца,
Чаркай пякучай — як у народзе,—
Дзеляць сваты каравай на падвор'і.
Госці адзначылі: «Вось дык надвор'е!
Многа і хлеба, і дзетак народзіць!»

* * *

Пабіў мароз бульбоўнік. Пачарнеў
Зялёны чуб ззалелага націння.
Перагалосяць птушкі па чарзе
Па роднай старане маёй гасціннай.

Праводзіць іх за самы небакрай
Выходжу па размяклай каляіне.
Я пакараў сябе і абакраў —
Жыцця пралётаў гэтак палавіну.

Цяпер снягі прастуджаных завей
Спяваюць мне сваёй асіплай мовай.
І больш ніколі ўжо не пазаве
На ўсё жыццё пакінутае мора.

* * *

Ты ведаеш, як прыбіраюць хаты на купалле?
Аеру і клёнаў да столі настоены пах.
Па зыбкіх маснічках
дзявочыя ногі ступаюць —
Вось-вось захістаюцца сосны
з габлёваных плах.

У жыце вясной з васількамі згубілася неба,
І зверху ў калодзеж
баяцца глядзець журавы.
І возера —
з квасам глыбока апушчаны цэбар —
Ледзь-ледзь выглядае
з высокае ўлетку травы.

* * *

Плачу́ цішынёй — непасільным аброкам.
А вецер прапіўся — шуміць і гудзе.
І быццам пазбавіўся толькі аброці,
Тралейбус па хрусткаму снегу брыдзе.

То зноў нечаканым паверне маршрутам —
Бяда яму дужа да нашай бяды?
А горад стаіць незакончаным зрубам.
Калісьці яго пачыналі дзяды.

Заву цябе з кожнаю ластаўкай першай,
Што б'ецца над вокнамі, ледзь не ў акно.
Пазваў бы і вершам, ды доўга ён пешшу,—
А лётаць пакуль што яму не дано.

Ты з ног паскідаеш, як белую наледзь,
Свае чаравічкі, прыйшоўшы ўначы.
Калі б я паспеў затрымаць цябе нават,—
То як утрымаць? Навучы, навучы!

## У КАРКІНІЦКІМ ЗАЛІВЕ

*Рыгору Барадуліну*

Вады салёнае расчын
У Каркініцкім чане,
І бераг з новенькіх аўчын,
І неба з белых чаек.

Сп'яняе водарам камка —
Глыбінная атава.
Як парушальніцкі капкан —
Адна пагранзастава.

Стрывай, тут мора, не ставы
З дзіцячым рабаціннем.
Не пераблытай астравы
Змяіны з Лебядзіным.

Давай узвалімся спярша
На той пясок-дублёнку.
Даруй, што хвалі-кажаны
У маладых дублёраў.

Даруй, што хвалі-кажаны
Вышэй яшчэ ўзаўюцца.
Даруй, што часам казаны
Галовамі завуцца.

Што недзе маці зноў без нас
Вячэру зганашыла...
На сонца — на чырвоны знак —
Да мора пруць машыны.

## МАЦІ

Па сярэбранай рацэ,
Залатым пясочку
Я твае знайсці хацеў
Лёгкія слядочкі.

Ды не раз ужо рака
Воду падымала.
Лёгкі след твой, як рука,
Хваля назмывала.

Пашукаю на лугу —
Ты ж яго касіла...
Дашукацца не магу
Ніякою сілай.

Кожны год з тае пары
Дзятліну зразаюць.
Можа, сосны на гары,
Тыя штосьці знаюць?

Знаюць, знаюць, ды маўчаць
Тры сасны, вядома.
А не хочуць засмучаць
Сэрца маладога.

* * *

Люблю лясоў зялёны колер,
Тугу дзявочую асін.
Не, буслы, вы не выпадкова
Мяне над лесам праняслі;

Над рэчкай вогнішчнага дыму,
Што пралілася на раллю.
Ці я люблю сваю Радзіму?
Ці Беларусь маю люблю?

Тады спытайцеся у сэрца:
— Дзе дзве крыніцы б'юць твае?
А б'юць яны з той мовы сельскай,
Што набылі бацькі мае.

Няхай яна вам блізкай будзе.
Я з ёй нямала перанёс...
А добра, што калісьці бусел
Мяне над хатамі пранёс.

* * *

Падвойныя рамы на цёплым гарышчы
Яшчэ не зважаюць зусім на свяжак.
А доўгія, светлыя вейкі іржышча
Ад першай слязінкі-дажджынкі дрыжаць.

Панчошкі за лепшае на макраступы
Змяняў бы цяпер жарабок да зімы...
Зайшоўся у хаце, вятрам недаступны,
Гармонік, з вайны яшчэ хворы грудзьмі.

## КАБ НЕ ЁН...

Сеяў, сеяў любы лён,
А я церабіла.
Каб не ён, каб не ён,
Што б тады рабіла?

Ён — што клён, ён — што клён,
Я — тая рабіна.
Каб не ён, каб не ён,
Што б сама рабіла?

Дзе той сон, дзе той сон? —
Ночку прахадзіла.
Дзвюх дачушак, як сасён,
Яму нарадзіла.

Многа дзён, многа дзён
З той пары прабіла.
А дзе ж ён, а дзе ж ён?
Што я нарабіла!

...Аліменты і паклон
Здалёку прыбіла.
Каб не ён, каб не ён,
Што б цяпер рабіла?..

* * *

Родны край! У жыце млявым
Васількі-Васёнкі,
Вымывалі, малявалі
І дажджы й вясёлкі.

Ні ў кога не пазычана,
Ні ў кога не брана
Тое поле, што качае
Гусенічны пранік.

Салаўі на шчасце пелі,
Песцілі надзею.
Край мой родны! Край мой белы —
Я табой русею.

Край мой родны — мая доля,
Доля спарышная.
Дзе б ні жыў, не збуду дома
І твае пашаны.

І здалёк я, сын твой белы,
Сню снягоў абрусы.
Будзь жа, Крым, мне —
Персік спелы —
Часткай Беларусі!

* * *

Неба рассупоніцца маланкаю,
Цесных хмар разыдзецца хамут.
І павозка грому паламаная
Рынецца у чорны каламут.

Падагнуў сушняк крысо суконнае,
Як бядак абноўку на дажджы...
Запрагу вясёлку сяміконную
У драпак заспаны на мяжы.

* * *

Над палямі, над лугамі
Дзве хмурынкі палагамі.
Дзве зялёныя маланкі,
Дзве сасонкі над палянкай.

А пад імі дзве магілы —
Два жалобных небасхілы.
Хай хмурынка з хмарай трэцца,
Загрыміць...
Хто будзе трэці?..

* * *

Тады на плечы я усклаў дарогу
І сам яе панёс праз тапякі...
Каторы год сумненні і трывогі
Заводзяць у такія тупікі,

Што роспачы нічым ужо не сцешыць,
Цяжэюць нада мной мае гады...

Хто быў ты, чалавек, за кім я сцежу?
Як выйшаў ты? Як трапіў я сюды?

## КАЛУГА ЎВЕЧАРЫ

Неспакойны, як клуха,
Горад мосціцца ў сон.
Добрай ночы, Калуга!
Я твой верны Ясон.

Не руно залатое —
Залатую зару
Кожны вечар за тое,
Што мая ты,— дару.

Штось кружочкам цалкоўным
Кінуў Месяц з рукі.
...Ходзіць твой Цыялкоўскі
Млечным Шляхам Акі.

* * *

Бліжэй да вёскі перагоняць
Табун бярозавы вятры —
На зімку новую прыгоняць
Аброць ля студні на вядры.

А тое збітае ля брыжа
Закінуць тут непадалёк.
І лістапад, як хлопчык рыжы,
Нясе да цёткі хуталёк.

## НА ТАЙМЫРЫ

Я хутка б стаў да тундры звыклым.
Таймыр — не горшае з умоў.
Ды бераг сажалчын з абмылкам
Усё заве мяне дамоў.

Прабач, прыветная Дудзінка!
Я быццам зноў за парту сеў.
У дзённіку маім адзінкай
На ўсю старонку Енісей.

3 Зак. 2989

* * *

Ліпавы цвет абляпіла,
Кружыць рупліва пчала...
Можа, яшчэ не любіла
Ці забываць пачала?

З сонечным роем заўзята
Зомкае песню лугоў.
Ёй бы салодкі узятак
З юнага сэрца майго...

Што ў ім — ні суму, ні жалю,
Боль на вачах праміне.
Толькі часінай уджаліць
Згадка твая пра мяне.

## ЛЯМПА

Перамяклую збрую
З ёй у сенцах складалі.
І, як стрэльбу старую,
Лінейнаю звалі.

Уначы не гасілі,
Калі з жарам не вельмі...
Па суседзях гасціла
На вясковых вяселлях.

Ах, гады,
Дзе цяпельца,
Дзе вы лямпу падзелі?

Праз капцелае шкельца
Мы на сонца глядзелі.

* * *

Па лесе — асцярожна!
Даўно няма вайны,
Ды падарвацца можна
І шышкамі сасны,
Што вожыкамі мірнымі
Павыпаўзалі з нор...

Не ўсе іх размінірваў
І дзяцел —
Хоць мінёр.

* * *

Маці сну не пазычыць.
Прад вачыма зялёны маркоўнік.
Ціха, маркотна.
Сцежку карова рагамі казыча.

Я не пазычу —
Не сплю таксама.
Голасна, зычна
Заплакала мама...

* * *

Цяпер нам забываюцца патроху,
Сыходзяць светлай сцежкаю гадоў
Мясціны тыя,
Дзе ў лясах патронаў
Намнога больш,
Чым восенню грыбоў...

* * *

Белае воблачка
Возера возіць.
— Свацейка, во́ дачка!
— Свацейка, во́ зяць!

Дзе ж яшчэ возьмеш
Ты цешчу ды цесця?..
Недзе на возеры
Моладзі сесці.

## КАЛІНА

— Каліна, каліна,
Дзе ты расцеш?
Калі ты, калі ты,
Каліна, цвіцеш?

— Расту на Айчыне.
У цвеце заўжды.
— Каліна, каліна,
Шчаслівая ты!

* * *

Нахмураную непагадзь брывей
Раз'ясніўшы
адным пяшчотным словам,
Рыбак,
я задаволены уловам
Тваіх узнятых да мяне вачэй.

* * *

Ткала маці посцілкі на кроснах...
Чаўнаком малюнкі малявала.
Нітку каляровую не коса,—
Ўздоўж і перак вандраваць пускала.

Я схацеў, малюнак каб ажыў той,
Ды чаўнок мой дзёўб чаўном у бераг...
Не заўжды уздоўж мая сцяжына,
Не заўсёды там, дзе трэба,— перак.

## НОВАЯ ХАТА

Уцалела камянішча —
Быць бы новай хаце
Да бярвенняў камялістых
Мох прынесла маці.

Дзень вясновы сонца зубіць,
Доўгі дзень на славу.
На паказ вянец зарубіць
Варывон кульгавы.

З бервяном няма суладу —
Хоць круці кашулю.
Хата будзе хай у «лапу»,
А хлявок у «шулу».

За ласінцам ёсць асіннік
На кроквы, на латы...
Скуль у маці толькі сілы
Будаваць палаты?

Ходзяць зоры талакою:
Дах — са збажынoю...
Сніцца хата ёй такою,
Як перад вайною.

## ДРАЗДЫ

Чаромхамі запрошаны
На хмельны баль дразды.
Крушыннік перакошаны,
І той, як малады.

Зямля мая — малінніца,
Цвіці, цвіці, квяціся.
Ідзе сусед на мыліцах,
Дарога ж — хоць каціся...

* * *

Прышколь каня,
Бягом яму не шкодзіць.
І сенам цёплым сцелены вазок.
Навокал нешта сумны месяц ходзіць.
Ці не згубіў ён ясны палазок?

А як яму, старому, па сумётах?
Дык пракаці шпарчэй яго, кручэй.
Каб холад аж праняў яго самога,
Каб зоры рассыпаліся з вачэй.

* * *

Дажджы не гасяць з дрэў агонь,
У птушак спешныя адлёты.
Ці то ўзнялі вятры на гон
Цыбулі доўгія паплёты?

Апошні ліст саб'ецца [illegible] крыл,
Гушчак асінавы абшарыць...
І мяліц жураўліны крык
Самотна слухаюць абшары.

* * *

Пяруць на сажалцы бялізну
Жанчыны ўперша па вясне.
Дванаццаць пранікаў, прыблізна,
Што тыя танкі на вайне.

Адразу аглушылі пожню.
Зямны уздых вышэй, вышэй...
І толькі боль з ударам кожным,
Жаночы,
Робіцца цішэй.

## ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ БОТЫ

Не для работы
Зязюльчыны боты.
Толькі й згадзяцца,
Што прагуляцца.

Дзе ж ты, зязюля,
Ножкі разула?
Як ты ў Сібіры
Боты забыла?

Ну, раскідаха!
Што ж ты за птаха?
Век за такою
Лётай тайгою.

Топчуць палеткі
Сінія кветкі —
Дзіўнай работы
«Боцікі», «боты»...

* * *

У краі тым, дзе лозна і альхова,
Крывы парканнік хаты абкружыў,
Ляжыць мая шчаслівая падкова,
Што на дарогу месяц узлажыў.

Пакуль калоссем валасы жыціла,
Спяліла цяжкім залатым кулём,
Яе у полі тонкая жыціна
Прыбіла ўжо зялёным вухналём.

Пялёсткамі сцвітуць рамонкі сцежак,
І цветам іх аснежацца палі.
Ды тым сябе заўсёды я суцешу —
Падкова майго шчасця на зямлі.

## ДЗЯДОЎНІК

Не цвіце ля плота дзядоўнік,
Па канавах старых, па дворышчах
На часіну зусім нядоўгую
Малінавым вогнішчам.

Адцвіцеш жа — і зноў калючы,
Быццам матчын позірк удоўні.
На сэрцы балюча, балюча,
Калі зацвітае дзядоўнік.

* * *

Надвор'е — горш і не накаркаеш.
Забудзь, што недзе сенажаць.
Яно такое, мора Карскае,
Яго і сцюжай не спужаць!

Яно, здзічэлае,
Ля Дзіксана.
Буяніць пачало — буянь!
Аж астравы нясуцца дыскамі
У Ледавіты акіян.

А дзесьці
Вечарамі познімі
У лузе выспеюць стагі...
Тут самалёт з адзіным полазам
Не можа выбрацца з тайгі.

## ЛАСІНЕЦ

З-пад снегу прабіўся ласінец
Вільготным касмыллем зрадзелым.
Ты выжыў, ласінец-гасцінец,
Як бацька, сівы і зрудзелы.

Лясовы ласунак ласёвы
Прадвесню пакінула восень...
Усё ж палягло паласою,—
Адкуль жа ты, цуда, ўзялося?

* * *

Як песню, сэрцам чутую калісьці,
З душы не вырваць сударажжу рук,
Нуджуся так па лугавой калысцы,
Дзе на траве гайдаецца жаўрук.

Дзе жораў мые ў сажалцы кашулю
І сушыць крылы бусел ля трубы.
Дзе вольхі — палахлівыя казулі —
На ўскраек лесу выйшлі для гульбы,

Дзе, ломячы азяблае бацвінне,
Бягу праз грады, каб угледзець, як
З шпакоўні, бы з суседскага гадзінніка,
Трывожна вылятае, свішча шпак...

Такое больш ужо і не прысніцца,
На чарку дам, паслухай, правааднік,
Спыні зялёных год маіх цягнік.
Хацеў бы я ў маленстве прыпыніцца.

* * *

Чым каса не зброя?
Ў кішані брусок,—
Ды сабе праз броды
Вунь за той лясок.

Немалюткі лапік
Крокамі злічыў
Ды касу аблапіў,
Як дзяўчо ўначы...

У траве азызла
Выцягнеш касу.
Хутка сонца ўзыдзе,
Высушыць расу.

Рэха аж ляскоча,
Не шкадуй бруска.
Заўтра зноўку скочу
Да таго ляска.

## НА ГОРНАЙ РЭЧЦЫ Ў ЯКУЦІІ

Праімчала аленем хуткім
За качэўямі гор вясна.
Сарамлівая, як якутка,
Рэчка свецціца аж да дна.

Патаемнанчка-надкаменачка,
А не высачыш з тайніка,
З кім гуляеш ты, патаемная,
Ля высокага тальніка?..

## ТАЕЖНАЯ СТАНЦЫЯ УРДАМА

Урдама — удава
Пры красе, пры стане.
Ходзіць кругам галава —
Можа, хто прыстане?!.

— Вы куды, вы куды,
Цягнікі-каралі?
Сваты з Варкуты
Жаніхоў пакралі.

Поўнач-маці лёс дала —
Не парай нікому.
Урдама-удава
Аж ля самай Комі...

## ЖАРКІ

Ручай журкі —
Цягнік.
Сабраў жаркі
І знік.

Жаркі ў капе,
Як жар.
Гарыць купэ —
Пажар!

Вязе яго
Ручай.
З вадой агонь
Ручай.

## РАЦЭ ЛЕНЕ

У «Леначкі», у «Леначкі»
Каменныя каленачкі.
Зялёная касыначка,
Брывей дзве каласіначкі.

Дарэмна просяць грузчыкі
Тваёй прыгожай ручанькі.
А я цябе, якутачку,
Увечары захутаю...

Захутаю да раніцы
Назло палескім здрадніцам.
Яшчэ вазьму за ручаньку,
Спраўляй, мядзведзь, заручыны!

Не плач, тайга, за сопкамі,—
Не будзе шчасце сопкае.
А ў хрупачку, у хрупачку —
На сэрцы хоць зарубачку!..

* * *

Вясна! І вёску промні аплялі,
Ідуць дзяды да раўчука журкога.
Звініць у небе песня жаўрукова.
Паруюць цёплым боханам палі.

І край мой усміхаецца лясны
Ласцінцавым адбеленым бароддзем.
Радзілі б толькі песні у народзе,—
Радзілі б толькі спорна каласы.

## ВЕЧАЛЛЕ

*Р. І.*

Вечалле, Вечалле
Азаронае,
Павянчана з вечарам
Азяро маё.

Ручніком зялёненькім
Бору вязана,
Зорамі залётнымі
Лісце вязава.

Ці была прысухаю
Чарацінка гнуткая.
Выйду ды паслухаю
Глыбіню тваю.

## ЛЕТНЯЯ НОЧ

Гоніць па ржышчы
Стагі касякамі.
Сава кугіча —
Ноч падсякае.

Адгукнуўся лупоўцы
Цягнік зрадзелы.
Паўкрадалі хлопцы
З вечарынкі дзевак.

Нябачнаю трэскай
Адляцела песня.
Трэція пеўні
Спеліся нарэшце.

* * *

З сабой няма суладку —
З-за веек, што як стрэхі,
Прыдбаў пінжак і... латку
Да будучай прарэхі.

Трывалы ж, як на зайздрасць!
Сем год знасіў, як смехам...
Чаго тады назаўтра
Па дзірку не паехаў?

* * *

Адна за вокнамі прыпеўка...
Зямля чарней ад скурата,
Дзе на градзе стаіць прапелер,
Пужае чутнага крата.

Ды вецер сціх — і млеюць крылы.
Ці прыслухоўвацца знарок
Спыніўся ён? Здалося — рые...
Напружвае штосілы зрок.

* * *

Дзяўчына-калужаначка,—
Калуга, ой, Калуга!
Зялёная лужаечка,
Лужайка каля луга.

Лужаечка — ляжаначка...
Ля луга, ой, ля луга.
Дзяўчына-калужаначка!
Калуга, ой, Калуга...

## ВЕРБАЛОЗ

Вербалоз сячэ да слёз...
*З народнага*

Дзіўнае свята.
Дзіўная вёска.
Ў крыжыках хаты,
Дзверы і вокны.
Маці кушчэўе
Ўнесла знадворку.
Будзе хрышчэнне
Ўсім без разбору:
Кату — злодзею,
Казлу — збродзею,
А першага мяне,
Нікога не міне.
— Верба-дрэва
Б'е дарэмна...
Вербалоз
Сячэ да слёз...

Слёз не мае —
Бяды мала...

. . . . . .

Бяды мала
Плача мама.

* * *

Клён ты мой апалы,
Клён ты мой зялёны...
*С. Ясенін*

Не гуляй ты, вецер,
З месяцавым кнотам,
Што дрыжыць і б'ецца
Над альховым плотам.

Я яго рукамі
Затулю, закрыю,
Быццам гэта сам я,
Трапяткі, бяскрылы.

І туды падамся,
І сюды схілюся,
У далоні дамся
І не адхіснуся...

І, як ён нібыта,
Праз вунь тыя клёны
Стану я адбіткам
На вадзе зялёнай.

І сцалую губы,
Як жаніх нібыццам,
Той дзяўчыне любай,
Што прыйшла напіцца.

* * *

На суседзе
Хлопчык едзе...
Цёпла ў бацькі на спіне!..

Не паеду
На суседу!!
Мой загінуў на вайне.

Ці павернецца, ці не?..

## НА ЕНІСЕІ

Енісей глытае якар.
Ходзяць хвалі з краю ў край.
Быццам вылупіўся з яйка
Толькі што партовы кран.

Распусціў трасы, што слюнькі,
Шыю збочыў, як пухнач...
Шле дзяўчына пацалункі —
Не дастану, хоць ты плач.

У віхуру пяцярні
Галаву павешаў...

— Пацярпі, пацярпі!
Ды прыходзь пад вечар.

Я прыйшоў да прахадной,
Падхапіў пад руку.
Сэрца бразнула на дно
Пяцітонным крукам.

Сонца поўзае, як краб,
Па таежнай спіне.
— Хутка, хутка наш карабль
Горад твой пакіне...

— Ой, глядзі, не прагадай,
Марачок фартовы.
...Доўга будзе выглядаць
Цябе... кран партовы.

* * *

Без дагляду мае ляды,
Пляміны — астожжы.
Лесу кволыя гірлянды
Ціха, сумна, дожджна.

Пражуравілі ў адчаі
Выраі палянам.
— Но! — і лейцамі па чалым.
— Но! — і па буланым...

Сустракаць мяне выходзь,
Не зашчэплюй сені.
Будзе вечар — будзе госць.
І пасцель на сене.

На дасвецці у вушах
Шэпат ашалелы...
Шэры, дальні, доўгі шлях,
У дажджынках шлеі.

## ІДУЧЫ НОЧЧУ...

Выпілі поўнач, моцную, як каньяк,
А ў неба шпурнулі бутэльку цьмяную,
Ляціць яна, кружыцца... І ніяк,
Колькі зорак на ёй, не ўцяміш.

Пэўна, што ладнага будзе. Ды, ну...
Сусед нашто звыклы і ахвочы.
А колькі разоў нагбом глынуў —
І ўжо спяваць хоча.

Прашмыгнуў туманамі цягнік,
Як воўк непаваротлівы, доўгі.
І таўшчыною ў сотню цаглін
Ноч перакрыла дарогі.

* * *

Пахне ў лесе маладымі арэхамі.
У зялёнай шалупцы ім сядзець небяспечна.
На арэшыне гром абраў арэлі —
Будзе многа маланкаю спечана.

Паляцець бы ў траву ім; стаіцца,
прыслухацца.
Ды яшчэ надта цемя слабое, кволае.
А калі тая восень — рыжая прыслужніца —
Прарыпіць на сцяжынках віхлястымі коламі?

* * *

На Белым моры — Салаўкі
Здзівілі, захапілі.
На моры Чорным — салаўі,
Як быццам закупілі.

У Запаляр'і песціў мох
Таймыраста і мудра.
Я б затрымацца нават мог
Гады на тры у тундры,

Як затрымаўся — не збяруся
Вярнуцца да цябе я...
Як з твайго вока, Беларусь,
Зляцеў я вейкам белым?

АЛЕНЬ

Калі алень адпачывае?
Калі трымае рогі зор?
Калі алень спачынак мае?
Як капытамі хвалі ў гор
Сабе прастору адбіваюць?

Калі ён спіць?
Калі бывае,
Што новы дзень змяняе ноч? —
Абодвух не заплюшчыш воч...

Скачы, жыцця майго алень!
Яно ж кароткае, як дзень.


4 Зак. 2989

## ДУДАРЫ

Адсачы, алешына,
Кволы кламць кары.
Склалі свае лепшыя
Песні дудары.

Ду-ду-ду, дударыкі —
Сівыя дзяды...
...Чую-чую здалеку
Кволы спеў дуды.

## КОНІ

Коні пасвяцца за лесам
Топчуць парасткі лазы.
Нацягаліся за лета:
То ў акучнік, то ў вазы...

Ходзяць коні... Схочуць легчы —
Палажацца на бакі...
Пачакаюць да налецця
На узмежках дзербакі...

* * *

На забалонак дрэва легла кола —
Мінуў яшчэ адзін пражыты год.
І гэтае таксама раскалолі
Валокны, мусіць, спрэчак і нязгод.

Ды дзіўныя яшчэ існуюць рэчы:
Звалілі дуб,— а ён усё цвярдзей.
Так я жыву сярод нязгод і спрэчак,
А колы год з таго яшчэ мацней.

* * *

Акіян уласны маю!..
Ды над ім не ўладны я.
Што збудую — ён да дня
Ўсё пакрэшыць, паламае.

Неабжыты бераг мой!..
Ад цябе не адступлюся.
Неяк летам пратаплюся,
Пацяплееш ты зімой.

* * *

Скалоў быў палец — кроў пайшла.
Не ўцяміш, як і супакоіў...
Да сэрца скабка увайшла —
Перахапіў яе рукою.

І з асалодаю нашу
Сваю смяротнейшую муку.
Жыву, люблю!.. А ўсё ж скажу —
Адняць далонь калісьці мушу.

* * *

Я у каханні самы неахайны.
Прызнаўся сам табе не так даўно,
Што не бывае іншага кахання,
А ўжо сягоння іншае яно.

І гаварыў тады табе — не хлусіў.
І гавару — ад праўды не зміну.
Так кожны дзень, не ведаючы, мусіць
Цягнуць угору ціха зіміну.

* * *

Вада смачнейшая з ручча.
З якім пасябраваў.
Адкуль, нібыццам ад дзяўча,
Не раз напіцца браў.

Зазнаў на смак гаркавы пыл,
Пясчаны крупадзёр...
Глыток з вачэй тваіх адпіў,
І ўпершыню — з азёр.

* * *

Цугляць не трэба жошкага каня.
Што сам пагляд не адарве ад долу,
Сам спішыць ход, калі яшчэ да дня
Здалёк прымчыць заўчас цябе да дому.

Мой конь! Цябе не біў я пад бакі.
З табой зліваўся, а не пяўся ў грыву.
Якраз тады прыгожа і ігрыва
Мяне узносіў ты пад аблакі.

* * *

Пахнуць парэчкі ў нас адвячоркам,
З неба гурошнік націнне паплёў.
Поўня, як матчын чыгун шматвядзёрны,
Коціцца ў цішы паснулых палёў.

Змрок васількова, сцежка у жыце.
Ціха паклаліся нанач сады.
Росы апалі. Колас цяжыцца.
Дзень у вачах — малады, малады.

* * *

У Алі-садоўніка дзве дочкі...
Што ж хаваў ты ад мяне раней?
Бачыў сам я сёння абадочкі
Чорных неапушчаных брывей.

І адна з іх быццам бы спытала:
— Як такі ты смелы на віду,
Што ж сваёй удачы не спытаеш? —
І цішком прамовіла: — Прыйду!

Не частуй, Алі, мяне ты чаем.
Як ні смачна звараны тузлук...

Чуеш, чайкі сёння ў адчаі
Носяць крылы заламаных рук?

Ёсць у госця супраць цябе змова.
Не крыўдуй, Алі, на маладосць.
Не ўпільнуеш доўгаю размовай
Ты дачкі малодшай весялосць.

І сярдуй, а хоць сядзі ў засадзе,
Толькі б ночка выйшла чым раней,—
Усё роўна у тваім я садзе
Абарву спакуслівы ранет.

* * *

Каторы круг зрабіла па Джанкою
Маленькая, смуродная рака.
А ты зляцеў, мой сіні птах спакою,
І не здагнала ўжо цябе рука.

Цвітуць сады, і белым брук прыбраны,
І ў гэтай чулай веснавой імжы
Я больш за ўсё хачу пабачыць брата
І чарнабрыўнік з нашае мяжы.

У родны край я б завітаў не госцем,
І з кожным годам больш маёй тугі
Па роднай хаце на краі Пагосцішча,
Дзе іван-чаю певень да страхі.

Я часта сню у гарадской кватэры,
Як доўгі месяц боўтае нагой,
Як зачыняе нанач мама дзверы
З малітваю, як ніткаю, даўгой.

Так вабіць зноў пайсці абраць парэчча,
У місцы алюміневай стаўчы.
Каб толькі меў я тыя-сія рэчы —
Змяняў бы на старэнькі матацыкл...

Здзівіў бы ім былых аднавяскоўцаў,
А новым іх сягоння не здзівіць.
Во наша груша!.. Тут было ваконца.—
А сцены... лёгка будзе аднавіць.

Зноў месяц са страхою пабадаўся б...
Суседзі, зычу вам святла ў вакно!
Ды чую я: «Ці мала пабадзяўся?
Да матчыны прыбіўся ўсё адно».

* * *

Суседзі! Люб і горак мне ваш вырак.
Бадзяцца — не! А падарожыў, жыў...
І дзякуй, свет, што я апарам вырас
З тваёй людской вялікае дзяжы.

Другая думка спеліць яблык-глобус.
Другое слова выберу з імшар.
І па-другому новая аглобля
Душы маёй варочае зямшар.

...Цяпер не той звярнуўся б я ласінцам.
У твар падскочыць месяц шчанюком
І будзе доўга да шчакі прасіцца.
І я не адганю яго шчаўчком.

* * *

На снег сцвярдзелы хай бы конь ступаў —
Усюды ходна, хоць абрывы збоку...
Малы ж пухнач бялюткі новы ўпаў,
І ўжо здаецца, што ў цалік — глыбока.

Так здаўна нам нагадвае жыццё
Малы спадман не блытаць з глыбінёю.
Але ж, даруй, не роўнаддзю адною
Прынёс табе сваё я пачуццё.

* * *

У снежань зводзіць фарбы лістапад.
Счарнеў яго да раніцы загнетак.
Ачах вугаль. А ці не гэтак
Надыдзеш ты, майго кахання спад?

Кране мароз. Ды ўсё ён не паб'е...
Жывому сцюжы надта не пагрозяць.
Так сэрца, падуладнае табе,
Снягі гадоў ніколі не змарозяць.

* * *

Хто над сабой уладны, як патрыцый,
Ці той дачуе сэрцам гэты зоў?
Мая любоў!.. Ужо і мне пад трыццаць —
Я ж раб тваіх жаданняў зноў і зноў.

Сцвітуць лугі. Снягі збягуць раўкамі.
Згусцеюць з траў адворныя мяды...
Пакуль цябе кранаюся рукамі,
Патуль і сам я буду малады.

* * *

Мне павязалі вочы сярод хаты,
Перакружылі, а затым — жмуры!..
І быццам з той да гэтае пары
Лаўлю я ўсё яшчэ той цень рухавы.

І тая мне хусціна вочы ціснe,
У цемры рукі ўсё чакаюць стрэч.
Дарослы бы... А хто б гукнуў
з дзяцінства:
Увага! — Дзверы, шафа, вокны, печ...

* * *

Каб верыць так, як вераць тыя дрэвы
У халады за восеньскім акном,
Што адзімець на карані ім трэба,
Каб зацвісці і пладаносіць зноў.

Тады была б і мне зіма нядоўгай,
Не бедаваў, што лета уцякло...
Шукаю словы.— Біся аб дарогу —
Яны ж былое страцілі цяпло.

* * *

Нават тым галу́бячым далоням
Не скажу на развітанне я,
Як пачула сэрца зноў здалёны
У кароткай песні салаўя.
Я прыйду сцягою журавіннай
У абдымкі клёнаў і бяроз.
Край радзімы болем жураўліным
І імхом зязюльчыным аброс.

Галасісты белы хор рамонак.
Выйду ў поле,— я ім падпяю.
Грай, кустоў расцягнуты гармонік,
Пра тугу вясёлую маю.
Я яшчэ не так каб многа страціў,
Галавы не размалоў кадух.
Ну, і хто, калі яшчэ не трапіў
У сіло жыццёвых закідух?

Так жывеш,— як ходзіш за вадою,—
Да калодзежных шумлівых ліп,—
Нават самай ціхаю хадою
Распялешчаш вёдзерную глыб.

* * *

Радзіма — непазмераны пакой,—
Здалося мне, што я рассунуў сцены.
Цяпер здалёк я чую неспакой.
Што там не ўсё яшчэ і зараз цэла.

Бярозу ссек — не вырасціў другой,
Не сеяў траў, а вытаптаў узвалак.

І ходзяць думкі топкаю дрыгвой,
Усім гаям сумненняў не узважыць.

Мае сябры — русявыя хлапцы
Забыліся на аваднёў і чарку,
На вілах носяць сонца як капцы.
Што дужым спінам іх задужа жарка.

Суніц у травах спелыя кругі.
У іх свой колер кінулі зарніцы.
І ўзводзяць беларускія стажніцы
Па-беларуску здобныя стагі.

Дык што ж званю пра сум і далячынь,
Якія там уздыхі і абразы?
Калі я сам ні словам, ані чым
Ад сэрца не аддзячыў ёй ні разу.

Заве мяне зямля маіх бацькоў,
Дзе кожны куст у полі мне, як родны.
Пастаўлю побач песні і быкоў —
У ворыве яны бываюць роўня.

## ЖУРАВЫ

Журавы! Журавы над Джанкоем!..
Рэжуць шыбіну ўжо наўскасок.
І дрыжыць за крылом важаковым
Кволы фінішны паясок.

Толькі я ўпершыню пераможцу
Не зайдрошчу за столькі год!
Хутка, хутка ўжо будзе можна
На Радзіму мне ўзняцца ўлёт.

## МАЦІ МЫЕ БЯЛІЗНУ НА САЖАЛЦЫ...

На камені невялізным
Маці трымаць не трэба.
Як першы зазімак, бялізна
Ляціць у траву пад дрэва.

Шэраю качкаю пранік
Па вадзе скача.
Дзеўбане у нагу качка.
Анічога не скажа.

Зашчыміць у матулі сэрца,
Абыймуць паветра рукі.
На момант і рухі
Пазбавяцца сэнсу.

Дзеўбане ў другі раз —
Сажалка пакачнецца.
Пакуль маці ачнецца —
А я ўжо вырас.

Дзеўбане ў трэці —
Вада адстаіцца.
А пранік зноў ля ног трэцца,
Адплысці баіцца.

І нічога казаць не трэба.
Успамінаў у маці далёкіх і блізкіх!..
І ляціць у траву пад дрэва,
Нібы першы зазімак, бялізна.

* * *

Дзе позняй восені прытулак?
Напэўна, ён ля плеч тваіх.
Дажджамі вымыты прыступак
На нас нагледзіцца дваіх,

Пакуль трымаю я аберуч
Тваю далонь, як пад ільдом.
Пакуль, нібы на другі бераг,
Ты запрашаеш мяне ў дом.

На стол пастравіш чай з малінаю,
Спытаешся, чаму схуднеў.
Любоў і боль твае маўклівыя...
Якіх я нават не хацеў.

На радыёлу кінеш дыску —
Доўгаіграючую зноў...
— Напэўна, Брамс! Навошта? Дык жа...
А на далей не хопіць слоў.

Пакой закружыцца, як жорны.
Аглушыць стукам па вядру.
....Ты не мая даўно ўжо жонка.
А я забыў... Даруй даруй!..

Святло газоўкаю пагасне.
Мяне праводзіш, як гасця.
Які ты слізкі ў восень, ганак!
Не паслізгнуцца б тут хацця.

## ЯК СЕЮЦЬ КАНЮШЫНУ

Як сеюць канюшыну?
Каб плечукам гудзець.
Стамлёныя мужчыны
Ці сядуць дзе за дзень?

Падэшвамі кавалкі
Змінаюць на раллі.
Рыпяць, рыпяць сявалкі
На жоўтым рамяні.

Ідзе дзядоў шасцёра —
Са жменяў прамяні.
Блакітна і шацёра
Нябёсы ўвышыні.

Я стаўлю пруццем вехі,
Або, інакш,— ляшу.
Ні за якія ж здзекі,
Як лешы той, пляшу.

* * *

Тут трэба толькі жвавых,
Ці хто на ногі злы.
...Даўно пазажывалі
На пятах мазалі.

Не птушкай-самахвалкай
Жыву сярод лясоў.
Бяруся за сявалку,
Чакаю каласоў.

А каб не сеяць двойчы
Ў адзін і той жа след,—
У акулярах вочы,
Няхай глядзяць як след.

## ВЫДРЭЯ

Вакзал, вадакачка ды слізкія рэйкі.
Ды чорная галак на іх татарва...
Вісіць на сцяне лесастою Выдрэя,
Як лекавая у бярэмцы трава.

Абражана ўнізе крыніца слязіцца,—
Пайдзі напрасцяж, пацалункам суцеш.
І голаму лугу удзень яшчэ сніцца
Адно: перастою зялёны мяцеж.

Я кожнаму роднаму слову зрадзею.
Адкуль ты, «Выдрэя», ў мове ў нас ёсць?
Ці дрэнную спадчыну з намі падзеліш,
Ці, можа, агульная ў ім весялосць?

У вольхах цяністых халодная рэчка,
Ці выдраў у ёй хоць рукамі лаві?
І колы грукочуць: «Выдрэя, Выдрэя...»
Знаёмых бяроз за акном мілавід.

Знаёмых паўстанкаў, як вёсак астанкаў,
Знаёмая ціша — дыханне заціш,
Куды, да якіх непазначаных станцый
Ты, хлопчык вясковы, як сёння, ляціш?

## У НОЎГАРАД-СЕВЕРСКІМ

Зялёным вопратку вясна
Не ўсю зацыравала.
Зачараваная Дзісна,
І я зачараваны.

Хмурынак лёгкія плыты
Пераганяюць чоўны.
Як наўгародскія браты —
Саборы незлічона.

Гасцінны на пагорак шлях —
Сцяжынка разаслана.
Па сумнай зорцы у вачах
Дзяўчыны Яраслаўны.

Навошта белая далонь
Ля скроні завявае?
Ні ў чый не траплю я палон,
Табой заваяваны.

* * *

Таўруе конь капытамі бароднымі
Паштоўку агарода ля ракі.
З глыбокімі і чорнымі baroznamі
Такія дасылалі маракі.

Такія, што і сёння за бажніцамі
Сямірадкоўем хваляў, як прыбой...
Дзве дзюркі ў нашай прытулцы — байніцамі.
...Рванула маці ў роспачы прабой.

* * *

З начы з'інелыя калёсы.
Ад дошак цягне халадком.
Збялелі восі і атосы.
Цвік вылез — адморозіў носа —
І зноў у дошку.
А лядком
Ужо на сажалцы ўзялося.
І конь прыгожы, гарбаносы
Ідзе няспешным хадаком.

Пакуль размова на брыгадзе,
Дастань з-за пазухі вузёл:
Гурок, адведаўшы прасол,
Праснак і бульбіна ў прысол —

Усё, што матчына прыладзіць
Рука да раніцы на стол.
З'ясі, калі і не паглядзеш...

Аддаў апошнія загады
Ужо з паспешшу брыгадзір.
І ўпрэжак рушыцца ранжыр.
Хутчэй на шлях! І двору шыр
Малым становіцца адразу.

Драбіны счэпяцца па разу.
Вазніцам крыкі і парады.
Нарэшце споўніцца парадак —
І песня ў голас на ўвесь шыр.

І ўжо ставай, лаві снапоўе
З стагоў змалочанага йльну,
Хвіліну нейкую адну —
І воз ужо ад'ехаў поўны

У поле ціхае.
— Ану! —
Лятуць снапы да палыну.
І Куліковым стала поле —
Палеглі воіны са сну...

Выходзіць дзед з грыбнішча белы
З апошнім кошыкам груздоў —
Ласункам лепшым гарадоў,—
Кажух казліны задубелы
З старым аднолькавых гадоў.

І як зімы прадвеснік смелы,
Праз ляды тупае дамоў.
І быццам грозіць нам зімой,
Каб замаўкалі нашы спевы.

* * *

Сохне, вяне лістам
На парозе восень.
Самародкаў зліткам —
У падстрэшшы восы,

Не гудзіце яра,
Не шчыміце зомка.
Мне аса не пара,
Мне аса не жонка.

А узяў бы пчолку —
Залатыя крылы.
Ды не возьме толькі
Яна трутня ў прымы...

* * *

Пах гаркавы пацярух
Цягне з поля к ночы.
Да світанку цецярук
Пра кагось балбоча.

І няхай балбоча ён —
Меней што пачуе:
Як вачэй квітучых лён
Цалаваў я чуйна.

Як рукі тваёй кружэл
Слізгануў за месяц...
Валасоў маіх кужэль
Твае пальцы мецяць.

Як прасіліся да рук
Кветкі плеч дзявочых...
Дык аб чым жа, цецярук,
Расказаць ты хочаш?

* * *

Пакахаю я пастушку,
Белабровы пастушок...
На бярозавых катушках
Наш у полі ёсць стажок...

Ты згадзіся побач сесці
І не думай усяго...
Хай падумаюць, што дзеці
Паскумацілі яго...

* * *

Месяц алешыне
Трапіў у клешні.
Ды не за намі
Глядзеў ён, канешне...

Цьмяны алешнік
Хмелем абвіты,
Ён жа — нібыта
Хустачка збітая...

Хустачка збітая,
Ноч не забытая.
Росная, позняя
Ноч сакавітая.

Шчасце нясмелае,
Шчасце няўмелае.
Сонца далёка
Яшчэ недаспелае...

* * *

За акном у садзе
Яблынька — нявеста...
Ці са мною сядзеш
Ты, схіліўшы вецце?

Не сумуй жа толькі
Ты у падвянечні.
Чуў я песень столькі
Аб каханні вечным!

Толькі, знаю, сэрца
Не крануць ніводнай.
Што ж не хочаш сесці
Ад мяне хоць водаль?

Што спяваюць губы
На чуллівай мове?
Ці другога любіш,
Ці з другім у змове?

Сад пакінеш цесны,
Скінеш цвет свой белы.
Ах, якую б песню
Прысвяціў табе я.

Ды аб чым скажу я
Ў ёй, пясняр вясковы?
Як цябе, чужую,
Палюбіў да скону?

Дык садзіся побач.
Слухай толькі, слухай!..
Не глядзі з-пад лоба
Белай завірухай.

* * *

Захварэлі бярозы, захварэлі,
Мае белыя шумлівыя арэлі.
Жоўтым лістам паскідаліся,
Што Ганусі спадабаліся.

А цяпер што пайду, азірнуся,
На арэлях з іншым Гануся

Да страхі да самай лётае,
Маім сэрцайкам валодае.

Як раней мы вясну сустракалі,—
Частаваў я яе саракамі
Ружавітымі, пшанічнымі,
Пацалункамі сунічнымі.

Будуць дзеўкі з старога дражніцца,
Бо у час не паспеў ажаніцца.
Ні жаніўся, ні пацешыўся,
На бярозе не павешаўся.

* * *

Ціха, ціха ў лузе
Дыхаюць рамонкі.
Нахадзіўся ў плузе,
Спачывае конь.
А на сэрцы лёгка,
Родная старонка!
І чуваць далёка
Песні навакол.

У абдымках вечар
Затрымаў бярозу.
Звёў туман за рэчку
Качар лугавы...
Пасароміць маці,
Што вярнуўся позна,
Як прайду па хаце
Ледзь ніжэй травы.

## АД СЭРЦА НЕ АДЛЕГЛА АДЛЕГЛАСЦЬ

Здаралася, не думаў аб табе.
І гэта сапраўды было здарэнне.
Ад чарады лясоў тваіх адбег
І больш нідзе не прыжывіў карэнне.

Сумую па зялёным гушчаку,
Яго хаду на прыгарак лянуюю
Згадаю зноў. І пальцамі шчаку —
Балючымі галінамі — ліную.

Сустрэць дакор у позірках крыніц
І палічыць за лепшае як ветласць...
У родным краі з крылаў перуніц
Узняўся мой несустраканы ветразь.

* * *

На світанку золкі ганак,
Яшчэ золей клямачкі,
У цябе адна загана,
Што на шчоках ямачкі.

Загана невялікая.
— Цалуй, бо маці клікае...
Зляцеў з падстрэшша верабей,
Ледзь не зрабіў заікаю.

* * *

Ступень па пень,
Слядочак па ляду.
Звесялееў на цэлы дзень
З аднаго пагляду.

Пайду, прайду
Масток-ручаіну,
Пакажуся на віду,
Які я хлапчына.

Вакол ля вакон
Шастаюць дзяўчаты...
Цешча выбежыць ваўком
Будучая
з хаты.

— Гу-га, гу-га!..
Прыпушчуся дралы,
А на сэрцы туга,
Што такі няўдалы.

* * *

Сыраежак-ракавак
Кошыкі няпоўныя.
Што ж дадому рана так
Ты вяртацца ўспомніла?

Пойдзе сонца абарач,
Смешачкі-пацешкі...
Сцербалíннік, папарацъ,
Засланіце сцежку.

* * *

Страху́ паняўся вецер шчэрыць,
На прызбу ўселіся дажджы.
Трапляе з чаркаю вячэра,
А сумна, што тут ні кажы.

Пастух за лета адгарланіў
І зноў на зіму ў сіпакі.
Адны дубы яшчэ арланяць.
Ды запазнелыя шпакі...

* * *

Калі б зіма ужо не зараз.
Стажок на ўзвалку зачані...
І, пэўна, выхартаўся заяц,
Прыйшоў у двор па качаны.

Па слюдзяному ўскоту ходзіць,
Няма дзе драпнуць кіпцюру.
Ну, гэтак пуста ў агародзе,
Што глыдануў са зла кару.

**БЫЦЦАМ ГОРЫ
З ГОР КАНЁМ**

Едуць горы [redacted] гор канём,
Здасца, у даліну...
Будзе домам мне каньён —
З каменя даміна.

* * *

Ходзіць дождж басанож
Па сцюдзёных лужах.
Вераб'іха ўсю ноч
Гаварыла мужу:

— Перасед зь у страсе,
Як усе, як усе,
Каб цябе не змачыў
Дождж. Чыў-чыў...
Дождж Чыў-чыў!..

А тарбей-верабей,
Камізэлік шэры,
Раз у год ні сабе,
Нікому не верыць.

Паляцеў як хацеў
Раніцою ў поле.
Сам намяк, хвост асеў,
Крылы — яшчэ болей.

— І што ж я параблю,
Як дамоў вярнуся.
Горка, горка вераб'ю,
Хоць вада як [redacted] гуся.

* * *

Я да кала прывязаны старым.
На ланцугу вяртлюк не іржавее.
І б'юся задкі аб нялюбы Крым,
Што з-пад капыт ляціць агністы
веер.

Сябе самога параўнаў з канём
І разумею — кепска, недарэчна.
Каню патрэбна пожня за сялом,
Цяністы куст, з аблогам белым рэчка...

А мне — радзіма поўнасцю, як ёсць,
Усё, што сэрца цёплае змясціла,
Каб гаспадар там быў я, а не госць
У родных ціхіх матчыных мясцінах.

І капялюш закіну і нейлон —
Найлепш кашулю белую навыпуск.
Глядзець, як стаў у полі новы лён,
І дбаць, каб быў для статка добры выпас.

Не змілаваны вёскаю, як пень,
Правінцыял, усю сваю асвету
Я прамяняў бы з тым, хто цэлы дзень
Як авадзень, касою звоніць лету.

Вось-вось усход мой зоймецца агнём,
Світанак золле ссыпаў на пасылак.
А тое, што зраўняў сябе з канём,
Дык ад таго не будзе меней сілы.

* * *

Усё аддам, што я калісьці браў,
Хадзіўшы у маленстве па суседзях...
І хоць чужым, магчыма, сёння сею,
Ды свой узвалак сам я узараў.

Якім жа працу лёс аддзячыць зернем?
Так асушыўшы зоймішчы балот,
Упарты працаўнік глядзіць на умалот,
Што ўсе выдаткі у шмат раз паверне.

* * *

Вось так аднойчы, нечакана —
Яшчэ і сена не зграблі,—
Вазьмецца восень за чаканку.
І з дрэў пападаюць рублі.

Ледзь-ледзь вільготныя, нібыта
Іх бабы ціскалі ў руцэ.
І імі ўся зямля набіта,
Хоць ты сплаўляй іх па рацэ.

А восень, восень — жартаўніца!
Падпаліць пяткі русаку,
Што ён бяжыць, як ад жаніцьбы,
Пакуль не стоіцца ў ляску.

...І ўжо зіма! А тая скарбам
Распарадзіцца, як грузін:
Прадасць утрыдарага, скажам,
Пад навагоддзе апельсін...

Набудзе футру, шапку, шлейфы,
Павяжа банты на касе.
І заяц белы, ашалелы
Затопіцца ў яе красе.

Як пасля балю той гарэзнік —
Ідзе, куды яго нясе...
А паглядзіш,— бы з выцвярэзніка —
Зграбае лісце па вясне.

* * *

Сем кляноў калёных,
А адзін не вырас.
Ластаўчынне клёнаў
Просіцца ў вырай.

І дрыжыць за імі
Маладзы лісточак.
У абноўках зімніх
Зімаваць не хоча.

Узляцеў высока
Да старой шпакоўні.
Б'ецца адзінока
Ля глухой бакоўкі.

Абарваўся зверху —
Дождж слязіну выжаў...
Я і сам не верыў,
Як да весны выжыў.

Як кружыў у полі
Лістабоем збіты,
Нежывы сабою,
Усіма забыты.

Як знасіў абноўкі —
Ледзяныя йсподкі...
І пяю па-ноўку
Сэрцам бясклапотны.

* * *

Так толькі той, хто марыў аб бязлужжы,
Па іх сумуе недзе ў першы год...
Казала ж маці: «Толькі недалужны
Забыць пазможа свой карэнны род».

Няхай Радзіма — воблакі і лужы,
Яна Радзіма — нас яна вышэй.
Паслужыш ёй — яна табе паслужыць
Цяплом узнятых на цябе вачэй.

Няхай папрок пашле мне з Вас каторы...
Юнак, я збочыў крокі быў свае.
Але ж і мне, усё ж лічу, не сорам
Глядзець у вочы сінія яе.

## СУНІЦЫ

Далоні — завіхоні.
Суніцы — завушніцы.
Дзяўчына не ціхоня,
І я ж не куль пшаніцы.

Нагнуся, пацалую —
І войкнуць не паспее.
Хай сонца дзень цалюткі
Вісіць у небе, спее...

Пад вечар адцвітаюць
Палян зялёных плямы.
З няпоўным нас вітаюць
Здагадлівыя мамы.

* * *

Зноў зарыпала восень гужамі,
На сумны́ выязджаючы шлях.
Хоць найміся самому з дажджамі,
Аб'ездчыкам стань у палях.

З павадом перад гнедага крочыць,
Перастой па лашневу гнучы.
Зіміне ўраджаі прарочаць
Гатунковыя зоры ўначы.

## ХАТА І МАЦІ

Маці здаецца —
Хата смяецца.
Чыста, прыбрана.
Ежа прыдбана.

Села за стол,
Падзівілася маці.
Што гэта, што
Так рагочацца хаце?

Выцягла крадкам
Дзве фотакарткі.
А ў старонцы
Па пахаронцы...

Хата зайдзецца,
Хата рагоча...
— Ешце, дзеці,
Маці не хоча!..

* * *

Кляновы ліст упаў на белы камень —
Спячыся мне гарачая аладка.
Ды толькі не спаліся, як у мамы.
...Пірог браў бацька — шынялёву скатку.

## ГРЭЧЧЫНЫ ЧАРАВІЧКІ

Пара медазбору. Гарэзніца грэчка
Згубіла свае чаравічкі у садзе.
Нагам сцюдзёна. Да вогнішча грэцца
З дзедам пад вечар грэчка прысядзе.

Ціха падрэміць. Салодка прыцмокне.
Нібы ў будане дзеўка-малодка.
Потым замоўкне. Як не замокне,—
Добрага трэба чакаць умалоту.

А раніцою прачнецца грэчка,
Ўхопіць ручнік ды мядовае мыла
І разам з яблынькамі да рэчкі
Пабяжыць мыцца.

Злечыш мой сум ты, пахучае лета!
Восень... Ад'ехала моладзь да Мінска.
Грэчку пакосяць. Дажджы выйдуць з лесу...
Грэчкай наб'ю сяннік на ўспаміны.

Белай зімою пачуецца музыка,
Песняй палёў закране чараўнічай.
Доўга не спіцца. Што гэта муліць?
Згадаю: грэччыны чаравічкі.

* * *

Пачуўшы ўперша на мачылішчы
Хароў жабіных шматгалоссе,
Мне музыкальнае вучылішча
На нашай сажалцы здалося.

Яго экзамены адказныя —
Ішлі вясковыя канцэрты.
І колькі «дзякуй» шчыра сказана
У адрас абласнога цэнтра.

## КВЕТКІ

Пачапіла вясна на вясёлку
Перамыты укоснік атласны,
Прышчапіла высока-высока
Аж пад сонцам прышчэпкамі-ластаўкамі.

Так пяюць апаўдні раўчукі праз ласінец,
Што самога жаўронка спадманяць!
Завіхаецца маці ля сына...
Ускладзе яму кветкі на памяць.

* * *

Даў цэлы свет мне з імем лёс ва ўладу,
Ды ў цэлым ім адна ты разам з тым
Скарыць не хочаш воч сваіх прынады
Прад закаханым позіркам маім.

Былы ўладар, я сам цяпер ва ўладзе.
Да ног тваіх спаклаў сваю асель...
...Было б зламацца ўжо якой прыладзе —
З палі кахання кружыць карусель?!

* * *

Пакуль на сэрцы ёсць у мора камень —
Яшчэ патуль хвалюецца яно.
Сыпучы ж жвір пасунуўшы нагамі,
Нашто сцвярджаць, што адчуваеш дно?

Мне тое — дно, куды пятой не ступіш.
Бяссілы ж часам — больш дужэеш з тым.
Як аб сапраўдны камень думку ступіш,
Што легла ўпарта на ілбе крутым.

* * *

Я па Рудаўшчыне йду,
Цябе рудую знайду.
Рудая, ру-да-я!
Рада ты і рады я...

Я са сцежкі не зміну.
— Адвячоркам заміну...
— Замінай не замінай,
А цяпер не замінай!

Я па Рудаўшчыне йшла,
Сабе іншага знайшла.

У яго акардэон...
Рада я і рады ён!

. . . . . .

Рудая, ру-да-я!
Нічому не рады я...

## БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

У русалак-верашчалак
Нячосаны валасы.
Здані вочы вытрашчаюць —
Адбірае галасы.

У зялёнай ціне твары,
Той гадзюкай абвіты...
Выйшлі людзі, а не твані.
З перамогай, балаты!

* * *

Хварасцінаю зорнага неба
Месяц — качку з пасеву не згоніш.
І атруты не кінеш у хлебе,
Як суседка Адэля ў тым годзе.

А сусед яе высачыў з клуні.
Ды такім яе словам зняважыў...
Паспрабуе хай толькі клюне —
Давядзецца на вогнішчы смажыць.

* * *

Эх, раз... яшчэ раз...
Мне ісці не напаказ.
Хоць і крыва, напакос,
Бо іду я на пакос.

А ў касе,
А ў касе,—
Як усе,
Як усе.

Эх, раз... яшчэ раз...
Кожны ходзіць напаказ.
Не касі! Касі, каса,
Бо не выкасіш куса.

## РУСАЛКА

Пахне мора водарам і кменам,
Быццам нехта расчыніў дзяжу.
І стаіць русалка за каменнем
З валасамі з цёплага дажджу.

І цалуе і пялешча дзіва
На руках малое немаўля...
Быццам тры мары сама схадзіла,
Аб тым цудзе чуючы, зямля.

Бераг малахітавы Місхораў
Пад рукою камень ззеляніў.
І смяецца з радасці і з гора,
Спуджаны купалкаю заліў.

З радасці, таму што закаханы,
З гора, тым што з кветкамі ў вачах
Сіні свет далёкі акіянны
Вернага кахання не ачах.

Не хачу, каб ты мяне пазліла,—
Прыгадаў я сёння так сабе,
Што сябе ўяўляю тым залівам,
Той русалкай дзіўнаю — цябе.

* * *

Мне вечар нагадаў мяне старога:
Кіёк на зорцы, месяц у руцэ.
І толькі бесканечная дарога,
Пакуль світанак новы не ўзрасце.

І закаханы, я б жадаў загану
Ў табе хоць ледзь прыкметную знайсці,
Каб мог я зверху на цябе паглянуць,
Каб не паверыць гэтаму ў жыцці.

## ПРЫДАРОЖНІК

...Роснае, кволае ў садзе парэчча,
Грак пераворвае зранку раллю...
Не адраклося, й не адрачэцца
Сэрца таго, што любіў і люблю.

Толькі забыўся мне луг медавіты,
Блытаю назвы настоечных траў.

Быццам, настолечкі вось недаліты,
Месяца цэбар даўно я не браў.

Пэўна, не браў... Засядзеліся косы.
Зноў бы «літоўку» з падстрэшша дастаць...
Згадкі ззімелыя скачуць, як козы,—
Вецце мінулага ім не дастаць.

Хто ж я? Чаму мне пяюць пахаванку
Недзе далёка і луг і рака?
Можа, забыў я пра маці-сялянку? —
Ў свеце бядней не было б жабрака.

Не! Не забыў... беручы забалонак.
Рыпне, аж сэрца зашчэміць, варштат.
Толькі даўжэй за усе забабоны
Будзе майго зварачэння вярста.

Скажуць: «Не варта шукаць падарожжаў,
Іх жа няма і ў родным краі».
Варта ці не... А сарву прыдарожнік —
Меней струменіцца будзе крыві.

## ГЛЯДЗЯЦЬ У МОРА КІПАРЫСЫ

Да мора збеглі кіпарысы
Глядзець, як пенны рве прыпой
І з дзікім рэвам — пакарыся! —
У бераг б'е глухі прыбой.

Глядзяць у мора кіпарысы,
І грозны іх здзіўляе лёс:
Такія вобразныя рысы
І так расквасіць аб уцёс...

А хвалі зноў нясуцца шквалам —
Самазабойства і азарт! —
Каб зноў і зноў з адвесных скалаў
У мора кінуцца назад.

Глядзяць у мора кіпарысы.
І зажмураюцца, калі
Уніз з нямым, каменным крыкам
Кавалак рушыцца скалы...

* * *

У канюшыне куст маленькі бэзу —
Зляцелы рой дзівосных каляроў.
І быццам з соцень тоненькіх парэзаў
Лілася ў свет іх кветкавая кроў.

Складалі пчолы па-буддыйску лапкі,
Маліліся на пекнасць і нектар.
І застаўлялі доўгіх джалаў скабкі
У сэрцы палахлівым, як ліхтар.

І здаўся я сабе тым кволым бэзам:
І колер той аскрэсліў думак рой.
І на душы такія ж парэзы,
І кветкамі зварачваецца кроў.

І тыя ж звышучэпістыя лапкі
Паўзуць да сэрца, грабучы нектар,
І тыя ж джалы, і такія ж скабкі,
І так — адзіны на увесь гектар.

## РАЗВІАННЕ З НОЎГАРАД-СЕВЕРСКІМ

Я душою адной не ў зборы,
А астатняе ўсё сабраў.
Пакідаю я вас, саборы,
А як быццам з сабой забраў.

Развітаемся канчаткова,
Падарожжаў абраў я лёс.
Яраслаўны і Канчакоўны,
Не праліце ні кроплі слёз.

Не зважайце, князёўны і ханны,
Што халодны я быў да спакус.
Ах, як горача я закаханы
У адзіную Беларусь!

Гэты горад мяне расчуліў,
Бо не часта аб тым пішу.
Дзякуй, Ноўгарад, дзякуй, чуеш?
Што параніў маю душу.

Ну, а Северскі хітрым вокам
Падміргне па-змоўцку мне.
Даўганогія буслы аблокаў
Ходзяць глыбака па Дзісне.

* * *

Зноў ты, вецер, залётны разбойнік,
Заляцеў, аббіваеш мой сад.
Ці то гоніцца ліст наўскапыт за табою,
Ці то курыцца кім залаты самасад?

Ах, лісцё, залатая мая самасейка,
Галаву маю жоўты агорне твой дым.
Я і сам, як той ліст, ўсё кружу, непаседа,
Над табою, жыццё, і пад ветрам тваім.

Тым шчаслівы, што спаў у паваленым жыце,
Праглынуў у дзяцінстве
і споўніўся смакам зямлі...
Што ж з таго, што я ліст
і нядоўга кружыць мне,
Калі мудрыя дрэвы твае
з небылога мяне узнялі.

* * *

Параслі іван-чаем узмежкі.
На парканніку кроплі расы.
І вачэй васільковых усмешкі,
І вакол уначы галасы...

Хтосьці выкуліў неба салонку.
Ходзіць вецер цішком па ільну.
Прыгадалася песня салоўку,
І не спіцца цяпер пеюну.

Ды і сам я з ім разам згадаю
Сваю даўнюю песню вясны.
— А цяпер памаўчы,— загадаю,—
Салаўіны разбойнік лясны!

* * *

У вёскі новыя прыкметы:
Курынагі лес антэн.
Дзявочых «хвосцікаў» каметы —
Не паспявае легчы цень.

І хоць не так у клубе людна,
Як у нядаўняму быцці,
Гавораць кемліва і ўлюбна
Аднавяскоўцы аб жыцці.

Былы сусед зажыўся лепей,
Шкадуе — старасць не ўбаку.
Ды сам ідзе яшчэ да хлева —
Пад свята вепра «па-баку».

Даўжэй трываецца ў мясніцы,
У краме попыт да драждджэй.
На смалявітыя масніцы
Вязуць бярвенні што даўжэй.

Пчала мядуецца рупліва,
У садзе грушы па даўбне.
Да хлапчукоў малых цярплівы
Спіць драбавік у будане.

* * *

Счарнелага снегу ашмецце,
Палёвая змоклая гаць.
Іду, як калісь, на дасвецці
І іншага б шляху не знаць.

Нагі не прыўзняць ад аблогі,
Чапляцца ў бядзе за кусты.
Якую я выбраў дарогу,
Адзіная ведаеш ты.

* * *

Даўно жыву у свеце нейкім новым,
Мясцінам родным стаў зусім чужы
Ды як скарчую думак тых пяннёўе,
Што цешаць ляда змоўклае душы?

Зноў іван-чай рабіннікі абчэпіць,
Пасыпле лісце жухлае з лясоў.
А сэрца хто лясоўчыну прышчэпіць
Да новых і нязвыклых галасоў?

* * *

Было у роднай хаце столькі вершаў!
Радочак моху — вось які радок!
Бярвеннем сціслы — гэта ўжо навечна.
Цяпер такі б — за золата з радоў...

І ўжо калі з гадамі на радочку
Я аднаўляю, як усё было,
Як захаваць той родны роўны почырк,
Шчымячы пах нясходжаных балот?

Бывае так, што слова верадуе,
Віруе, быццам рыба пад ільдом.

Пішу адной рукой, нібы будую,
А ці ж адной рукой збудуеш дом!

З бяссілля і ад гневу затрасешся.
Ды што ўжо тыя звычаі ламаць.
Адной рукой ухопішся за сэрца,
Другой патрэбна галаву трымаць.

Я шмат схадзіў і шмат куды паездзіў,
Нямала бачыў з даўніх тых гадоў.
Ды толькі вам відней, мае суседзі,—
Падобны мае вершы на той дом?

Ці вам таксама ў іх бывае ўтульна?
Ці ў іх не менш, галоўнае, гасцей? —
...Ды то не дзічка ў садзе, а матуля
Сарочку трэ старанна, каб чысцей...

Страляе нехта словам, як з нагана.
А мне крывёй струменіць у траве
Таму, што ад зямной пякучай раны
Ніхто мяне ў жыцці не адарве.

* * *

У журавоў ні сораму, ні жалю...
На межах зжух іржавы малачай.
Плыве з пакосу пах капён зляжалых.
Згарчылі вольхі спрэчкамі ручай.

Акраец сонца жытняга над лесам
Спяклі у падарожжа ім кляны.
Імкнуць кліны у неба незалежна,
І цень іх адбіваецца ляны.

* * *

Мой цягнік не знае станцый,
Па чыгунках дальніх ходзіць.
Так дзяўчат, напэўна, [redacted] танцаў
Увакол хлапцы праводзяць.

Ля паркана сенны прываз,
Вяне прызбамі асочча.
Скарачаць у поўні прывязь
Ночы ліпеньскія хочуць.

Бор — зялёная іскрынка,—
Як мае на колер зрэнкі.
Бальшаком пятлю на Крынкі
Мне яшчэ кідае зрэдку.

Ды засіліцца дарога
За счарнелыя масцішчы.
І для некага другога
Салаўі мае адсвішчуць.

* * *

Фатограф нас садзіў уперша поплеч.
З тваім плячом зраўнялася маё.
Ды што яно, не зведаўшае поля,
Няўпрэжанае ў плуг і касаўё.

Цяпер лягчэй бы суражыць бярвенні,
Чым часам тое, што кладу на іх.
Хоць не шукаю лёгкага збаўлення
І не жадаю цяжкасцей адных.

Былы ляток, я ўсё ж жыццём спавіты.
Хвала яму! Не разлучуся з ім.
Даўжэй было б нам слухаць сіпавіты,
Гаючы голас пагашчанскіх зім.

І хоць вясна паўднёвая упоўна
Спаўняе свой спакуслівы абрад,
Мне па Радзіме смагна і няўпойна,
І ёй няпоўна без мяне, мой брат.

* * *

На развітанне не падам рукі.
Не быў, Джанкой, ты сябрам мне ніколі —
Тугі маёй зялёныя кругі
Штошырак разбягаюцца наўкола.

Канал надзеі — цёк ты без надзей.
І лёс глухі стаяў на вадаскідзе.
Цяпер прыйшоў мой самы светлы дзень,
Ім свой адзначу ў будучае тыдзень.

У нікуды, а ўсё ж такі дамоў
Мяне цягнік зялёны перакоціць.
Гарачынёй матуліных камоў
Да горла радасць першая падкоціць.

Усход гарачы схопіць булаву
І сонцам б'е снягі на Беларусі.
...Узняўшы галаву, з'явіўся бусел,
І я прад ім схіляю галаву.

9 красавіка 1973 г., Джанкой,
апошні верш паэта ў лісце да брата Івана.

# Паэма

## ДЗІРВАНЫ

*Брату майму*
*Лісіцыну Івану Фёдаравічу*

...Жарт байкаслова,
Што
  дзеці —
    знаходка буслова,
Мне вельмі па сэрцу.
Між іншым,
    няхай іх находзяць,
      дзе хочуць:

І ў сенцах,
І ў сене,
Пад ціхай павеццю,
Пад ліпавым веццем,
У жыце,
Ў Сусвеце,
У сельскім Савеце...

Мяне знайшлі на тым свеце...
У канцлагеры
«Асвенцім»,
«Майданек»,
«Дахау»...
Значэння не мае.
Ўсё роўна дахаты

Дарогі не мае...
...Гайдалася неба над Койданавым.
Бор рваў на сабе валасы шалёна.
Прыклады і боты кованыя
Людзей заганялі ў эшалоны.

Сядовы...
Буйкевічы...
...евічы...
...евічы...
...евічы...
Пялецкія...
. . . . .

З імі бацька,
                    цяжарная маці
                                        і брат.
Кожны зямлі па кавалачку браў,
Каб радней з ёй было ім
                                на фабрыцы смерці...

...Не верце
                метрыцы,
Не верце,
Дзе напісана:
«...ў 1944 годзе...»,
                                шчэ
«Лёзненскага раёна»,
«в. Пагосцішча...»

Гэта маці
Апасля,
            па непісьменнасці —
Асцерагалася
Непрыемнасцей
. . . . . . . . . . .

...Лагер —
Драцяны акварыум,
Пузатыя
перапоўненыя баракі,
Як карасі,
Аб'еліся таннага варыва.

Пачатак смяротнага экватара.
Ад Баварыі
Да Хірасімы...
Варвары!
Варвары!
Варвары!

...Па вуглах агарожы —
Жалезнай рагожы,
А не палескай,
Вартавыя на вышкі паўзлезлі —
На шматметровыя табурэткі.
Кулямётнае «табу»
да волі,
да сонца,
да свету...

А на самым відным месцы
Літарамі ў касаўё
Выведзена ў насмешку:
«Кожнаму сваё».
. . . . . . . . .

...Табе таксама, Вілі...
Партызан барадаты
з чашчобы вывеў,
Каб бярозу не параніць,
І з аўтамата —
прама.

Ваўкі яшчэ доўга,
да 1954 года,
Вылі
Па табе,
Вілі.
Ты йшоў
Навыцяг
на Ўшаччыну,
на Віцебск...

. . . . . . . .

У жахлівым футболе
На зялёным полі
Беларусі маёй
Ты не быў абаронцам,
Не праходзіў ад пажарышчаў крайнім.
Ты быў у нападзе
забойцам,
карнікам.

Падалі людзі
прамыя, як алоўкі з пенала.
...Цябе піхалі,
І ты забіваў
«пенальці»
З двух крокаў аўтаматам —
Па дзецях, па хатах...

. . . . . . . . . .

Збялее твой гаупт?..
— Яшчэ адзін аўт!
Ці не?

— Гэта ж на вайне...
Што зробіш —
Сярэднеруская ўзвышша!

Фюрэры
        і гаўляйтэры
Пешку
        прагулялі,
Што
    ў каралі́
Не выйшла...

Тады
Я нарадзіўся
Ў цябе на радзіме,
Ў звар'яцелым логаве
За цябе
        заложнікам.

...А ў тры месяцы ледзь не быў ужо
Расстраляны.
Немец
    увайшоў у барак —
                бачонак сцярлядны,
Загадаў
Ля сценкі пастроіцца.

Ніводнага ценю
                на сценку
Не адбіла сонца
З людзей хударлявых.
Ударыў нагайкай па танюсенькіх
                        халявах.

— Кожны чацвёрты
                будзе дзіравы!..
(Чатырох
        палонных
                за лагерам
У старым глінішчы адшукала аблава.)

Падаюць па аднаму
злева направа...
Вечная слава!
Не з дрэва на дрэва,
Не ў саракі на арэлях,—
Смерць пералётвае
чорнай вавёркай,
Разгрызаючы кожнаму
чацвёртаму
Сэрца — цвёрды арэшак.

...Чалавечы ланцуг забразгацеў.
І ўмомант,
як па камандзе,
На месца забітых
Паставілі... маці!
Падставілі маці пад кулі
дзяцей.

Ганаруся табою,
Мама!
Ты таксама
Выкаціла з-за спіны
маю іржавую люльку
(Бо дзяцей, што стаяць маглі,
не хапала),
І паставіла побач.
Тут...

Немец выкархнуў рыбячых воч сваіх
лускі.
Звар'яцеў.
Пазрываў пагонаў чорныя шпалы.
Зайшоўся ад рогату:
— Гут!..
Гут!..

І яго таксама не стала
Разам з марай набыць зямлю у Падсвіллі...
— Прывітанне яму, Вілі!

Яшчэ маці твая,
фраўвахтманка Эльза —
«мадам Жалеза»,
Аб табе
нічога
не ведала.
...А маёй
Мяне
з паловы года
забаранілі
наведваць.

. . . . . . . . . . . . . .

...На Купалу,
Калі ў Беларусі
скараспелку капаюць
Ды маладыя яблыкі
Паглядваюць палахліва на пацаноў,
А на жардзінах высока кола палае
З трапяткімі крыламі вогненных буцяноў,

Калі
Сонца
У раніцы
росы скупляе —
На Йвана Купалу —
Братка Іван
Прасіў
Жандара:
— Мамку заберыцё —
Дык і мяне,
і дзіцё...

Жандар
Ударыў.
— е, Еван!..
Сэрца спаліла гневам.

...Біўся аб сценку барака,
Пакуль галава свінцом не набракла.
Хацеў пазбыцца,
забіцца
адзіны брат мой,
Бацька мой новы —
Хлопчык дванаццацігадовы...

. . . . . . . . . . .

Штодня на працу —
Збіраць на плацу
Акуркі,
Нечыстоты,
Вазіць да смярдзючага стоку.

Дзень у дзень
Побач каляскі дзве
Снуюць па плацу.
У адной — нечыстоты,
У другой — істота.
Гэта я.
Ужо і не плачу.

Тыфам усё праклякла навокал.
Тройчы будзе
яно
праклятае!

Да самага вызвалення маці праплакала.
Бачыла некалькі разоў праз вокны,
Як, запрэгшыся ў Смерць

(Нельга інакш і назваць, як гэтак),
Вазіў ты мяне на сметнік са смеццем
І смецце зноў прывозіў, як з таго свету.
Сізіфава праца гэта.

Ды адступіла смерць.
Бачу цябе
за жыццё маё кволае ў наступе.
Фыркалі фрыцы: «Russish, Dummhastig...»
Калі ты чапляў мае рукі
да калясчыных дужак.
Ты рады быў дужа,
Што я наперак гэтай твані
Трымаўся —
Рускія з дужых!

. . . . . .

...Фрау Эльза,
Эльза — мама,
І ў табе жалеза
Мала
(У канцлагеры хоць пост)...
Атрымала
Эльза
Ро.

«Фрау Руммель,—
Піша Хорст,—
Jetzt ваюем мы
Nach ost
Называецца
Пагост...

Партызаны
У поўны рост.
Злая Winter

Ошэн тут.
...Вілі — Kinder твой —
Капут!
Ja, potztausend
Jener Ost!..
Білі ў грыву —
Б'юць ас хвост...»

Плача Эльза
На свой лад,
«Дай мне сына,
Фатэрлянд!

Гадаваць жа
Трэба зноў
Для Германіі
Сыноў.

Гітлерюгенд!..
Übermensch
За Германію —
Без меж!..»

Фрау Эльза,
Карацей —
Не вярэдзіла б
Касцей!..
. . . . . .

...Закапцелыя ад паляніц вайны,
Паскіданыя з нашых сталоў выбухамі,
Пакінутыя вамі
на кожным папялішчы —
саганы
Да чорных
магутных званоў
пераможна выбухнулі.

Больш вы не госці
Ў Хатыні, ў Пагосцішчы.

Годзе!
Хопіць таго,
                што на доўгія шчэ гады
Першыя літары іх
Будуць пачынацца з вісельніц.
Народзяцца вёскі і гарады,
А памруць хлапчукі,
Забраўшы з сабою
                        апошніх асколкаў
                                вар'яцкія высеўкі.
Гранаты ж не цацкі,
                        калі без чакі.

. . . . . . . . . . . .

Цягаліся па лагеры ахвосцем
Сытыя ўласаўцы — з «РОА».
Савалі, як з рога,
Цукеркі
        табе і мне перад строем,
З палонных шукалі ахвотнікаў.
Ніхто не выйшаў.

Для мяне нават
                    ты не працяг рукі.
Гэта яны прад намі — жабракі.
Рукі назад заклаўшы,
                        просяць асцярожна...
— Здарова!.. Здраднікі з РОА!..

. . . . . . . . . . . .

...Зорачкі-шасцяронкі,
                        зорачкі-шасцяронкі...
Мядзведзікам куляюцца літары «Rower»...

Дзеля мяне
за міску баланды
Колькі ты іх перамыў фатэрлянду!
Кроў на далонях не можа сачыцца...
Сабачыя суайчыннцы!..

Бываюць там дзеці
Адамавы й Евіны,
Дзе найсіротнейшыя Іваны
Пранумараваныя,
пераіменаваныя ў Еванаў
Замест далонёў
носяць чорныя два дзірваны?

Два кавалкі зямлі, што належаць Радзіме.
Пальцаў пухлых
Касцёр дравяны
Глыдае агонь
вачэй рабінавых.
Дзірваны...
Дзірваны...
Дзірваны...

Быццам ходзяць па рынгу баксёры.
Ды абнесены дротам калючым рынг.
У дванаццаць гадоў станавіцца прызёрамі
Чэмпіянату ваеннай пары!..

. . . . . . . . . . . . . . .

— Nimm.
— Nein.
Маленькую булку працягвае маленькая
немка,
А ты не кранаеш,
Маленькі механік веласіпедаў.
— Данке... Снедаў...
(Нямецкі ж ведаў!..)

Аўчаркі зрэнак рвануліся ўперад
Па жвіры вачэй,
праз зарашша павек...
І толькі ззаду
паціху, пешшу
Ішоў чалавек...

...па бульбянішчы родны,
Нагамі па гурбах засмяглых пыліў,
Прутом лазовым
бульбіны-спадарожнікі
Запускаў
з Зямлі.

Начаваў у духмяным стозе,
Лесавых не мінаў кліноў.
У вялікім восеньскім стосе
Выбіраў ён лісцё кляноў.

Бальшакамі йшоў, лагчынамі,
Па ласінцавых касманах,
(І дарэмна, што ў марах хлапчыных...)
Перайшоў ён усю Айчыну.
Не з-за гэтага ж кусмана.

Абодва занемлі,
Думак вазня:
«Абурыцца немка...
Давядзецца ўзяць».
...Дзе не вымесціцца болю,
Дзе няма жывога болей,—
На ўтравелым дальнім полі
Невядомаю сяўбой
Узышла сама сабою,
Узышла сама сабою,
Узышла сама сабою
Раптам першая любоў.

Як прайшла яна употай
Агарожамі гароты
Пад калючым гэтым дротам
Да палоннага дзіця?
Не за тым жа бутэрбродам,
Не з адным жа бутэрбродам,
Незабыўным бутэрбродам,
Што і браў ён нехаця...

Што ні дзень — псуецца «ровар».
І стаяць яны ўпаровень —
Вочы ў вочы, бровы ў бровы...
— Данке, Еван! Данке, рус...
Паглядзеў тады не проста,
Паглядзеў ужо не проста,
Паглядзеў зусім не проста
І паправіў: «Бела-рус!»

Неразумна, неразумна
Па палонным
немцы румзаць.
Ты ж арыйка, Эма Румель,
А хіба ж арыец ён?
Як цябе вучылі, ўздумай,
Як усіх вучылі, ўздумай,
Як заўжды вучылі, ўздумай:
— Russisch — Revolution...

«Russisch — Scheiße,
Russisch — Schweine...»
Вілі так пісаў нядаўна.
На нямецкім вышыванні
Што ні час — крыжы, крыжы...

— Прычапілася, дзівачка,
Ей пра Руслянд раскажы!

...Не памерці б тут ад смеху.
Раскажы табе...
А як?
Ты па-руску —
«небельмессен»,
І з нямецкаю я —
так.

«Kälte dort» — мароз з марозам.
Б'е у нос і пад бакі.
Партызан таксама böse
(Гэта значыць злы такі).

У Руслянда ляндаў многа.
Будзе бітай deutsche Pest.
Давядзецца, пэўна, ногі
Павяртаць ей з Ost на West.

Пасвятлее неба —
Адшукаецца і лес.
Хай будуе хату Гімлер,
Што спаліў яго эсэс.
Зразумей без перакладу —
Горш, як тут,
нідзе няма.

. . . . . . . . .

У Руслянду
Фатэрлянду
Трэці год
стаіць зіма!

. . . . . . . .

...Там, дзе соннага лесу ускрай,
Касякам я шчасціў жураўовым...
— Пакарай ты таго, пакарай,
Хто не даў мне даслухаць іх мовы.

Ціха ўвосень ляцелі б кляны
Незлічона па мілай краіне...
— Пракляні ты таго, пракляні,
Хто не даў мне набегацца з імі!

Буслы звыклыя хочуць да рук,
Паглядаюць на котлішчы збоку...
— Не даруй ты таму, не даруй! —
Гэтак дзеці тут моляцца богу.

. . . . . . . . . . . .

...Да чаго ж упала многа
Той расы на верасы,
На счарнелыя аблогі,
На барозны праз лясы.

Што яны, траншэі, родзяць?
Жыта чорнае вайны.
Кулі падаюць і ўсходзяць
З каласоў тваёй вясны.

Верба ў рэчцы ногі мые —
Не змачыць бы ёй касы.
Паплавы стаяць нямыя —
Не адбіў ніхто касы.

Журавы журботна трубяць,
Шчыры бор стаіць сцяной.
Заваёўнікі на труны
Валяць сосны над Дзвіной.

І дарога іх прамая —
Носяць рэчак далані.

Хай зямля іх там прымае,
Дзе радзіліся яны.

Тут няма для іх Эдэму,
Дый няма ўжо дзе лажыць.
І чаму баварка Эма
Ходзіць моўчкі па мяжы?

Не была б то каралева,
Ды адкуль ёй здацца тут?

— Я цябе шукала, Еван,
І знайшла, нарэшце... Гут!

Ты павінен ганарыцца.
Па чыёй я тут віне?..

Ты таксама ёсць арыец.
Ты арыец, Еван?

— Не!!

...Танкі вырваліся з лесу,
Застагналі дзірваны...
Ці распятая завеса —
Вязень лагера дзвярны?..

Супыніў бельгіец коней.
Побач з коламі ж зусім
Хлапчанё ляжыць такое,
Як яго там недзе сын.

— Мёртвы ён ці непрытомны? —
Скочыў з козлаў на зямлю,
Падаткнуў рукаў суконны —
Ненавісную змяю.

Ратаваць, здаецца, можна.
Да сябе падаў рыўком

Так, як мог, неасцярожна,
Усяго адной рукой.

Ці ж яго, бельгійца Франца,
Перад ім была віна,
Што вайна схавала ранцы
І забрала ўсё вайна?

Ці ж яго, бельгійца Франца,
І тады была віна,
Калі побач бомбы рвацца
Пачыналі давідна?

Ці ж яго, бельгійца Франца,
І цяпер у тым віна,
Што не здатная да працы
Там...
        яго рука адна?

Пасябруйце, Франц з Іванам.
Аднае ж вы ёсць вайны
Незагоеныя раны,
Два асмалкі,
Два кавалкі,
Два балючых дзірваны.

Пасябруйце, Франц з Іванам,
Сябраваць жа не віна...
Зацягнуўся б дымам цьмяным,
Гора выцягнуў са дна,
Самакрутка, дзе яна?..
Ён закруціць, скажа: «На...»

Гэта ж позна, а ці рана,
Толькі скончыцца вайна.

Пасябруйце, Франц з Іванам,
Не злачынства ж сябраваць,
Ты яго, як сына, Янам,
Бацькам ён цябе названым,
А ці братам стане зваць.

Пасадзі яго на козлы,
Абдымі адной рукой.
Гэта рана а ці позна
Боль здымае як рукой.

Запытай яго пра брата —
Пахітаем галавой.
Пацікаўся вінавата:
— Дзе, Ян, фатэр-мутэр твой?

Накармі, чым ёсць на кухні,
Кінь з сабою лахманы.
Бачыў, як валяўся пухлы,
Быў руцэ тваёй зрадні.

Пасябруйце, Франц з Іванам,
Бо не ўсё шчэ даравана.
Толькі позна а ці рана
Прыйдзе час
і прыйдзе суд.
Дзе цябе спытаюць прама:
— А чаго ты ездзіў тут?

Можа, ўся зямля ўзарана,
Ўсё засеяна на ёй?
Не чакае, можа, ганак
Цябе ў Бельгіі тваёй?

Дык ці позна а ці рана
Будзь жа, Франц, ты сам сабой.

Не сходзі жыцця ў лейцах,
Што куды ні павярні,
Каб не ездзіць болей немцам
На табе, як на кані.

Глянь на іх!..
Маслак гарбаты
Скуру выпнуў, як шато.
Там —
снарады для гарматаў,
Ну, а тут
развозяць што?

Качарыжкі на баланду,
Ад сталоў апошніх смецць.
А падумаўшы, да ладу —
Тую ж самую блакаду,
Тую ж самую, бач, смерць.

А скажы табе, што возіш
Ты кашчаную руку
Замест той, жывой,
адрознай,—
Дык да розуму не возьмеш
Або кінешся ў раку.

Але ж ёсць ўратаванне —
Пасябруйся,
Франц,
з Іванам...

І калі той час настане,
Што суровы прыйдзе суд,
Перад ім
на развітанне
Ты адкажаш на пытанне:

«А чаго ты ездзіў тут?» —
Развражаў бельгіец сумна,
Русіяна прыціскаў.
І як быццам нешта думаў
Побач з ім пусты рукаў.
. . . . . . . . .

Цагліны,
цагліны,
цагліны...
Рукі,
рукі,
рукі...
У адзін бок пацягліся,
Развяртаюцца ў другі.

Цагліны,
цагліны,
цагліны...
Рукі,
рукі,
рукі...
Слабыя — на змерзлую гліну.
Грукат,
грукат,
грукат...

Канваір падышоў,
стрэліў —
Справу давёў да ладу.
— Гэта ж усіх вас стрэне!..
— Бі гадаў!!

І сорак цаглін чырвоных
У цемя
ляцела
злюцела...

Паўстанкай была Чырвонай
З рускімі рурская цэгла.

Шэсць аўтаматаў —
нямала,
Выбіцца можна на волю.
Іншага шляху не мае,
Хопіць
жыцця пад канвоем.

Стоіць нас ночка пазная,
Ноччу ніхто не пазнае.
...Ды абвілася аблава
Злева,
Справа...

. . . . . . . . .

Не стракозы над вадою,
Не зумзатыя чмялі.
Над табою — удавою
Джала чорнае змяі.

Загавораў многа знаеш —
Ты яе загавары.
Ёсць трава такая «залеч»,
Ды далёкая ў бары.

Камарыная цадзілка
Цэдзіць суцем ля карча.
Патаемная сцяжынка
Да жывога там ручча.

Толькі ты не працэдзіш
Сум і боль свой да відна.
Быў каханы, былі дзеці ж,
Засталася ты адна.

Нашто вырасла чаборам
У высокім у бары?
Каб цяпер пазбыцца бору
Пасля шчаснае пары?

Нашто пела ў ім зязюляй?
Дзе цяпер зязюляваць?
Як зазваць сумела куля,
Што ўжо звацца не дазваць?

Пад баком анучы, быццам
Перавялая касва?
Лагер — ціхая капліца.
Месяц — вострая каса...

Ціха верыла ў павер'е,
Што вяртаецца назад,
Хто сарочку пераверне,
Зносіць перадам назад.

А часамі ў сны жахлівыя,
У бязлітасныя сны
Упляталіся шчаслівыя,
З той, далёкай стараны.
Цераз варту як праходзілі
Сны ласкавыя Вясны?
...Зноў жанчыны карагодзілі,
Як, бывала, да вайны.

— ...А скажы ж мне, мая
Марусенька,
Адкуль былі ў цябе госцейкі?

— Генерал — з арміі,
А маёр — ды з палка,
А паручык малады
Быў з атрада, хоць куды...

— А скажы ж мне, мая Марусенька,
А што ж елі ў цябе госцейкі?

— Генерал еў курачку,
А маёр — качачку,
А паручык,
мілы мой,
Піў гарэлачку са мной.

— А скажы ж мне, мая Марусенька,
А дзе спалі ў цябе госцейкі?

— Генерал спаў у горанцы,
А маёр — у святліцы,
А паручык,
мілы мой,
Спаў у спаленцы са мной.

— А скажы ж мне, мая Марусенька,
А што ж далі табе госцейкі?

— Генерал даў цалковы,
А маёр — трохрублёвы.
А паручык малады
Даў чырвончык залаты...»

Вочы завяжуць...
Вясёлыя жмуркі!
— Ніхто не заўважыць,
На сене не мулка...

Горача ж рукі
Шыю абловяць.
У жмуркі, у жмуркі —
Няшчырыя словы.

— Галявіны, гаем
У жмуркі гуляем.
Сюды, за ядловец!
Не зловіш, не зловіш!..

. . . . . . . . .

Павязаны ноччу
Жаночыя вочы,
Рукі ловяць
Успаміны з волі.

А яны — скнары —
Дорага просяць.
Не ідуць да нараў —
Да дашчаных просцін.

Падыдуць скрытна
На тыя ж мукі.
Крыўдна, крыўдна
З жыццём у жмуркі.

Чаго ж гэта варта
Ад гульні муціць:
Каму ж заўтра,
заўтра
Давядзецца жмурыць?..

. . . . . . . . . .

...Бамбілі ноччу... Добрая пабудка!
У вызваленне выданы аванс.
— Паслухай, Франц, дамоў, напэўна, хутка?
— Вайна — капут,— смяяўся рыжы Франц.

Шарэнгамі выводзілі палонных
І некуды машынамі вязлі.

...Вязала фраў Эльза скарб галоўны
У тоўстыя віхрастыя вузлы.

На снезе след шкілетны ад умяцін,
Як быццам бы адбіткі хто здымаў.

Куды яны яшчэ павезлі маці?
Дазнаўся Франц, што ў лагеры няма...

Сціскала сэрца скрывянелай губкай.
Нясцерпным болем хто яго апёк?

Германія, як тая душагубка,
Глытала свой адпушчаны паёк.

Вясновы снег перамяшаны, хлюпкі,
На залюбкі старанная вясна.

— Напэўна, я паеду, Еван, хутка,
Вазьмі на развітанне, Еван,
                                        на!

І нешта у кішэнь яму паклала,
Ля самых азірнулася варот.

...Упершыню за ўвесь палон ён плакаў
І кулакі абодва пхаў у рот.

. . . . . . . . . .

Траскучай сарокай
З учора яшчэ
                абляцела лагер
                                        вестка
                                          чароўная —
Побач,
Ужо недалёка
Чырвоныя!

...Выбухі —
Дыхае неба
На поўныя грудзі —
Твар зямлі перакошаны, немы.
Няўжо яшчэ калі гэта будзе?

Няўжо паўторыцца?
І зноў
Сярод сноў
Неба падорвецца
На зямлі змінаванай,
Такой змілаванай.

Будзе падаць чарот ад куль.
А пакуль
Па-кравецку
Самалёты бяруць з яго апошнюю змерку.
У баку ад лагера бомба рвецца.
. . . . . . . . . . .

Нарэшце,
саюзная
юзам
сунецца
З неба Амерыка.
. . . . . . .

Хруснулі рэбры баракаў,
Не трэба брамак,
Ламай каўчэгі!
...Кулямётныя чэргі.

Абсмаленымі качэргамі
Ракеты-карчэўніцы
Святло карчуюць,
Дзе смерць прачуюць.

Ноч вызвалення!..
Раніца...
Шпакі за рацыяй.

Булькоча ў птушыным горле
З радасці, з гора.
Ляцяць пазыўныя
Ў Панізаўе, у Ніўкі.

Вернецца —
Ці не павернецца...

. . . . . . .

Верыцца
І не верыцца,
Што воля,
                што сонца!!!
Вышкі
Паснулі
З бяссонніцы.

ЗМЕСТ

**Лісіцын У.**

Л 63 Беларусь — мая калыска: Кн. паэзіі/Прадм. Р. Барадуліна.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 167 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00538-0.

Лисицин В. Беларусь — моя колыбель: Кн. поэзии.

У гэту кнігу ўвайшлі вершы з адзінага зборніка Уладзіміра Лісіцына (1944—1973) «Жураўлінае весло» і многія раней не публікаваныя творы. Паэт, які нарадзіўся ў фашысцкім канцлагеры, большую частку свайго такога кароткага жыцця пражыў далёка ад роднай Беларусі, але светлы вобраз яе назаўсёды запаланіў чуйнае сэрца вернага сына, які абяцаў стаць адным з лепшых беларускіх паэтаў...

Л $\frac{4702120202-079}{М 302(03)-90}$ 133—90 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

Лисицын Владимир Сергеевич

БЕЛАРУСЬ — МОЯ КОЛЫБЕЛЬ

Книга поэзии

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

Лісіцын Уладзімір Сяргеевіч

БЕЛАРУСЬ — МАЯ КАЛЫСКА

Кніга паэзіі

Рэдактар Л. Р. Законнікава. Мастак А. А. Каравай. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 3330

Здадзена ў набор 16.10.89. Падп. да друку 08.02.90. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,14+0,07 укл. Ум. фарб.-адб. 6,64. Ул.-выд. арк. 6,49. Тыраж 2600 экз. Зак. 2989. Цана 85 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.